


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

19 мая 2017 года №20 (1151)

## Вілейскі стадыён больш не будзе небяспечны

Для заўзятараў паставяць трыбуны з пластыкавымі сядзеннямі, для футбалістаў зробяць новае поле.

Старонка 22

Фота vk.com.

## Жыхары дома №25 па Віленскай у Маладзечне самі зрабілі рамонт у пад'ездзе

старонка 5

## Мядзяльчанін пажартаваў з сябра: прыставіў ружжо да галавы і націснуў на спускавы кручок

старонка 4

## Спажыўца абурыла праца таварыства абароны спажыўцоў

старонка 3

# Замежныя мовы або сацсеткі: чым заняцца вілейскім пенсіянерам

ВІЛЕЙКА

**Наведваць гурткі можна не толькі дзецям і моладзі. У гэтым мяне пераканалі ў вілейскім цэнтры тэрытарыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

– Са сталымі людзьмі мы пачалі працаваць ад 2014 года. Сёння нашых гурткоўцаў – 65, – распавяла загадчыца аддзялення дзённага знаходжання цэнтра **Марына Макарава**.

Самым маладым навучэнцам – крыху за 60, старэйшым – амаль 90. Жанчын – большасць. Мужчын значна менш: 7-9 чалавек з усіх 65.

Па назіраннях Марыны, калі жанчынам больш цікава займацца рукадзеллем і творчасцю, то мужчынам даспадобы інтэлектуальныя віды дзейнасці.

Ужо некалькі разоў прадстаўнікі моцнай паловы прыходзілі ў цэнтр і прапаноўвалі супрацоўнікам адкрыць шашачны клуб. Магчыма, ён з'явіцца ў цэнтры ад верасня.

### Навошта камп'ютар у 70 год

Чаму ж вучаць ва ўзросце "60+"? Пералік уражвае: праца на камп'ютары, рукадзелле, замежныя мовы, літаратурная творчасць, псіхалогія, вакал, аквааэробіка.

Па словах Марыны Макаравай, адным з самых запатрабаваных гурткоў з'яўляецца "Майстар-NET". Тут вучаць працаваць на камп'ютары.

– А навошта камп'ютар у семдзесят? – спытала я і тут жа адчула сорам ад такога недарэчнага пытання.

Аказалася, пенсіянерам камп'ютар патрэбны так, як і маладым. А можа, яшчэ больш. Папершае, у шматлікіх наведнікаў камп'ютарнага гуртка дзеці жывуць за мяжой. Таму як жа клапатлівым бацькам абысціся без скайпа і электроннай пошты?

Ды і ў сацыяльных сетках на пенсіі можна "пасядзець". Асаблівай папулярнасцю, па словах Марыны Макаравай, у бабуляў і дзядуляў карыстаюцца "Аднакласнікі". Фэйсбук і "Укантакце" – менш.

Сярод наведнікаў цэнтра ёсць і творчыя людзі. Ім камп'ютар патрэбны для таго, каб друкаваць свае вершы і апавяданні, рабіць брашуры ўласных твораў, рыхтаваць кнігі да выдання.

Тым больш, у цэнтры ёсць магчымасць развіваць літаратурныя здольнасці. На валанцёрскіх пачатках аб'яднаннем "Дамінанта душы", дзе збіраюцца літаратары, кіруе філолаг, былая дырэктарка школы **Антаніна Гарчакова**.

– А бывае так, – дзеліцца Марына, – што пенсіянер, якому крыху за 60, навучыцца ў нас працаваць на камп'ютары, а пасля і працу сабе знойдзе. Цяпер жа амаль усюды неабходныя навыкі работы з камп'ютарам.

### У госці да польскіх пенсіянераў

Пенсія – час, калі можна зрабіць шмат карыснага. Напрыклад, вывучыць замежныя мовы. У цэнтры працуюць гурткі "Размаўляем на англійскай" і "Польская мова".

Польскую выкладае валанцёр **Ірына Глушак**. Яна сама добра вывучыла мову суседзяў. Хутчэй за ўсё, веданне польскай мовы спатрэбіцца наведнікам для зносін з пенсіянерамі Польшчы.

Марына Макарава расказала, што цэнтр супрацоўнічае з польскім універсітэтам трэцяга ўзросту ў Вроцлаве. Менавіта па ўзору такіх устаноў у Вілейцы працуюць са сталымі людзьмі.

Загадчыца не выключае, што ў хуткім часе зладзяць нейкія абменныя візіты пенсіянераў з Вілейкі і Вроцлава.

Сярод кіраўнікоў гурткоў ёсць як штатныя супрацоўнікі цэнтра, так і валанцёры-пенсіянеры. Напрыклад, хтосьці ўмее добра вязаць. Чаму б не навучыць гэтаму іншых жанчын? Вязаць кручком сваіх сябровак навучае самая старэйшая наведніца – 89-гадовая **Ганна Пятрова.**

Яна ж дзеліцца досведам пляцення фрывалітэ – прыгожых старажытных карункаў з багатай гісторыяй. Кажуць, у Францыі сам Людовік 14 вельмі любіў рэчы, зробленыя ў гэтай тэхніцы.

### Як маму-пенсіянерку прывяла на заняткі дачка-пенсіянерка

Аднак і 89 год – гэта не самая высокая ўзроставая мяжа. Да нядаўняга часу цэнтр наведвала **Ганна Санкоўская**, якой быў 91 год. І прыходзіла яна сюды разам са сваёй 70-гадовай дачкой-пенсіянеркай.

Раз на тыдзень наведнікі гурткоў рукадзелля выязджаюць у Дамы рамёствы у Ізбіно і Каловічы. І тут ужо займаюцца не сучасным скрапбукінгам – вырабам незвычайных паштовак, а беларускімі народнымі рамёствамі: плятуць з саломкі або лазы.

Ёсць ахвотныя займацца ганчарствам. Да нядаўняга часу такі гурток вяла валанцёрка **Галіна Ваўчкова**.

Вырабы гурткоўцаў выкарыстоўваюць у якасці прызоў і падарункаў на розных гарадскіх мерапрыемствах, выстаўляюць, прадаюць на гарадскіх і раённых кірмашах.

**Галіна Голуб**, былая настаўніца беларускай мовы і літаратуры, вырашыла на пенсіі праявіць сябе ў журналістыцы і вёрстцы. Яна – галоўны рэдактар газеты цэнтра "Дзённы субяседнік" і кіраўнік гуртка "Паліграфічная вясёлка".

Газету ў цэнтры выдаюць кожны месяц на двух аркушах фармату А-4. Тут пішуць пра насычанае падзеямі жыццё пенсіянера. А збіраюць матэрыял для кожнага наступнага нумара ў гуртку "Атлантыда".

### Аквааэробіка: каб не калола і не балела

Здароўе – адно з самых злабадзённых пытанняў для людзей сталага ўзросту. У цэнтры можна займацца скандынаўскай хадой, аквааэробікай. Заняткі ў вілейскім басейне праводзіць трэнер **Наталля Бяганская**.

– Фізічныя нагрузкі вытрымлівае не кожны, – дзеліцца назіраннямі Марына Макарава. – "Новенькія" часта наведаюць басейн раз-другі і сыходзяць.

А тыя, хто сябруе з фізкультурай пастаянна, заўважаюць, што займацца плаваннем, як і любым спортам, трэба рэгулярна. Бо ў час вымушаных перапынкаў "то тут баліць, то там коле".

Ёсць гараджане, кажа Марына, якія б хацелі стаць наведнікамі нашых гурткоў, але мы не можам іх прыняць у сілу "юнага" ўзросту. Справа ў тым, што наведваць дзённае аддзяленне Цэнтра тэрытарыяльнага абслугоўвання можна пачынаючы ад 60 год.

– Мы, канешне, нікога не праганяем, – кажа загадчыца аддзялення. – Людзі прыходзяць паглядзець на мерапрыемствы, часам нечым займаюцца ў гуртках.

Аднак афіцыйна іх прыняць тут не могуць. Некаторыя, дарэчы, так і "даходжваюць", пакуль не споўніцца 60. А потым прыходзяць у гурткі ўжо на законных умовах.

Па словах Марыны, яна толькі курыруе дзейнасць аддзялення. На ўсё астатняе хапае актыўнасці яе "падапечных". Яны самі ладзяць мерапрыемствы і пасяджэнні. А здараецца, што адзін за аднаго могуць гурток правесці.

### Літаратура і камп'ютар для вязынскіх пенсіянераў

Працуе цэнтр пераважна з гарадскімі пенсіянерамі. А што рабіць сталым людзям на вёсцы, якія таксама не супраць праявіць сябе?

Для такіх актыўных вясковых пенсіянераў у маі 2016 года адчынілі сацыяльны пункт у Вязыні на Вілейшчыне. Тут таксама можна навучыцца працаваць на камп'ютары, паспрабаваць сябе ў літаратурнай творчасці і ўмацаваць здароўе.

Усе гурткі працуюць два разы на тыдзень. І амаль усе бясплатныя.

Бліжэй да лета большасць адукацыйных гурткоў прыпыняюць працу. Вілейскія пенсіянеры – людзі актыўныя. Маюць агароды, лецішчы. Таму з пачаткам пасяўной становіцца не да гурткоў.

Для тых, хто знаходзіць час прыйсці ў летнія месяцы, супрацоўнікі прапануюць экскурсіі, паходы, культурна-масавыя мерапрыемствы. Такія сустрэчы, на думку Марыны, кампенсуюць зносіны, якія чалавек губляе з выхадам на пенсію.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Злева направа: Надзея Пятроўская, Лідзія Гіль, Галіна Тонкавіч, Бярнарда Мінкевіч, Раіса Янкоўская на выставе сваіх паштовак у вілейскім музеі.

**Даведка "РГ".**
Універсітэт трэцяга ўзросту – гэта новая форма работы са сталымі людзьмі. Яна ўключае ў сябе арганізацыю асветніцкіх і навучальных курсаў, творчых майстэрань. Першую такую ўстанову адкрылі ў Нью-Ёрку ў 1962 годзе пад назвай "Інстытут для прафесіяналаў-пенсіянераў". Пазней падобныя ўстановы адкрылі ў Францыі, Японіі, Англіі. У Скандынаўскіх краінах працуюць народныя ўніверсітэты, калегіі і акадэміі для сталых людзей. Іх дзейнасць фінансуюць прыватныя асобы, міністэрствы і мясцовыя ўлады. У Беларусі праца са сталымі становіцца даволі актуальнай. Гэта абумоўлена імклівым старэннем насельніцтва.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Спажыўца абурыла таварыства абароны правоў спажыўцоў

## Таварыства з прэтэнзіяй нязгоднае

МАЛАДЗЕЧНА

**Спачатку маладзечанец Дзмітры звярнуўся ў гарадское таварыства правоў спажыўцоў са скаргай на прадпрымальніка, які, на яго думку, кепска адрамантаваў машыну.**



Фота Rusauto.net.

Маладзечанец лічыць, што машыну яму адрамантавалі так, што яна пачала працаваць яшчэ горш.

Праз некалькі месяцаў працы з прадстаўнікамі яго інтарэсаў мужчына нават больш абураецца на сваіх абаронцаў.

Усё пачалося восенню, калі мужчына звярнуўся да адной мінскай фірмы парамантаваць аўтамабіль. Прыгнаў машыну 5 верасня, а атрымаў назад толькі 28 лістапада.

– Знік пярэдні ход у каробцы-аўтамаце, – прыгадвае мужчына. – Праз месяц прыязджаю забіраць, плачу 1 300 рублёў. Еду на першай, другой перадачы – усё нармальна, а як толькі пераключыўся на трэцюю – машыну кінула ў аварыйны рэжым, яна пачала марудна разганяцца.

Маладзечанец зноў прыгнаў машыну на рамонт. Папрасіў дакументы – адказалі, што ўсё дадуць пасля.

– Казалі, нібыта гідраблок паляцеў, – распавядае Дзмітры. – Прыязджаю за машынай, кажуць: “Плаці”. А чаму мне трэба плаціць, калі яны не адрамантавалі. Тыдзень так бадаліся. Пры мне паставілі новы гідраблок. Пасля яшчэ стартар мянялі. Затым высветлілася, што вырвалі мацаванне задняга сядзення, аўто перыядычна не заводзіцца. Атрымліваецца, што паломку не выправілі, маса недахопаў, машына стала працаваць яшчэ горш. А дакументы мне ніякія так і не далі.

Маладзечанец звярнуўся з праблемай у маладзечанскае таварыства абароны правоў спажыўцоў. З ім склалі дамову, ён аплаціў 130 рублёў унёску.

– Хаця ў дамове напісана, што яны працуюць “бязвыплатна”, але гэта толькі пачатак, – тлумачыць мужчына. – Спачатку ніяк не маглі знайсці адказчыка, каб накіраваць яму пошту. Цягнулі, як толькі можна. А пасля ў мяне ўвогуле склалася ўражанне, што таварыства стала на яго абарону. Казалі, што наўрад ці што дакажаш. Пачаў працу з адным юрыстам, а пасля ўзяла другая, затым зноў памяняліся.

Самым непрыемным для маладзечанца стаў дзень суда.

**Дзмітры і так нерваваўся, а тут за некалькі гадзін да пачатку яму прыходзіць ад юрыста таварыства паведамленне, што яна не прыйдзе, таму што пачалася сесія.**

– Дык няўжо яна пра гэта за гадзіну да самой сесіі даведалася? – абураецца Дзмітры. – Я стаю на тым судзе як небарака, без абаронцы... Перанеслі пасяджэнне на 17 мая. Колькі я ўжо сіл аддаў і на той рамонт, і цяпер, каб дабіцца дапамогі таварыства.

### Таварыства: “Нават крыўдна гэта чуць”

Начальнік юрыдычнага аддзела таварыства абароны правоў спажыўцоў **Кацярына Балашова** пракаментавала сітуацыю са спажыўцом Дзмітрыем:

– Сапраўды, ён звярнуўся 13 снежня, яго справай займалася я, і на той момант мы дапамаглі скласці прэтэнзію. Але пасля пайшла ў адпачынак, і на гэты час перадала справу калезе. Наколькі мне вядома, патрэбная праца праводзілася з ім у поўным аб'ёме. У красавіку давялося на месяц з'ехаць, і справу зноў я перадала таму ж спецыялісту. Мы не пакінулі яго аднаго. Сапраўды, падчас суда ў яе была сесія. Чаму папярэдзіла толькі раніцай? Верагодна, меркавала, што атрымаецца запрасіць на суд калегу з мінскага офіса таварыства. Ніхто наўмысна не спрабаваў яму насаліць. У нас жа і свая зацікаўленасць – калі выйграем справу, то пакрыем свае расходы. У нас усе спецыялісты атэставаныя, кампетэнтныя і маюць юрыдычную адукацыю. У любой арганізацыі магчымыя такія замены. Гэту справу я лічу складанай, таму што доказальнай базы было вельмі мала, і мы нават думалі, ці брацца ўвогуле за яе.

Юрыст кажа: сам факт, што таварыства прыняло справу, хаця і без ніякіх пацвярджальных дакументаў, значыць, што яны падтрымліваюць спажыўца:

– Я папярэджвала, што мы не можам гарантаваць выйгрыш. Яшчэ была праблема ў тым, што да адказчыка не даходзіла карэспандэнцыя. Дасылаем ліст, ён 30 дзён ляжыць на пошце, пасля вяртаецца. Таму спрэчка расцягнулася. Цяпер справа ў судзе, яна прынятая да вытворчасці.

У тым, каб справа ўсё ж дайшла да суда, дапамог сам адказчык:

– Я размаўляла з гэтым прадпрымальнікам, ён пацвердзіў, што рамантаваў машыну. Толькі адмаўляецца, што адрамантаваў няякасна. Дзякуючы гэтаму мы і змаглі звярнуцца ў суд. У спажыўца не захавалася ні чэкаў, ні іншых дакументаў, а цяпер шмат прэтэнзій да нас.

Кацярына Балашова патлумачыла і пытанне з “бязвыплатнасцю”:

– Мы заключаем дагавор бязвыплатнага аказання паслуг. Мы іх аказваем бязвыплатна, але, паводле Статута, маем права браць добраахвотныя ўнёскі. Пра гэта мы гаварылі спажыўцу. Праца, якую мы выканалі: склалі прэтэнзію спажыўца, сваю прэтэнзію, іскавую заяву, хадайніцтва, зварот у міністэрства – нават крыху крыўдна чуць, што мы нічога не зрабілі. Ёсць вельмі простыя справы, а тут мы выціскаем усё па крупінках.

Перспектывы справы маладзечанца Дзмітрыя начальнік юраддзела ацэньвае так:

– Справа ў вытворчасці, значыць, спрэчны момант там ёсць. Патрэбная экспертыза, якая ўстановіць, ці быў рамонт зроблены якасна. На маю думку, шанцаў выйграць больш, чым прайграць.

Мы паведамім чытачам “РГ” аб выніках другога пасяджэння суда ў наступных нумарах “РГ”.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Офіс гарадскога таварыства абароны правоў спажыўцоў месціцца ў Маладзечне па адрасе: вул. Віленская, 12, каб. 23. Графік працы: пн-пт 9:00-18:00, абед 13:00-14:00; сб 11:00-15:00. Тэлефоны бясплатнай гарачай лініі: (80176) 50-41-43 ці (8029)764-24-07.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**На 784 машыны**

больш прадалі арганізацыі гандлю ў Беларусі за I квартал, чым летась за такі ж перыяд.

**Сёлета лічба склала 4 980 машын.**

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.05 | 18.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8855 | **1,8583** |
| Еўра | 2,0520 | **2,0618** |
| Злоты, 10 | 3,2468 | **4,8765** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2468 | **3,2758** |
| Грыўня, 100 | 7,1259 | **7,0093** |
| Курсы ў “Банку БелВЭБ” | **10.05** | **17.05** |
| Еўра | 2.0400/2.0750 | **2.0250/2.0630** |
| Долар ЗША | 1.8700/1.8900 | **1.8400/1.8600** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 10.05 | 17.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | 16,85 |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,93 | 6,93 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | 3,25 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | 4,15 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | 12,90 |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | 1,45 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,25 | 2,25 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | 1,70 |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,20 | 2,20 |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | 0,65 |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | 5,20 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | 0,95 |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,99 | **1,49** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,00 | **1,29** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,00 | **3,49** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,49 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,49 | **2,79** |
| Мандарыны (маладыя), 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Радыска, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Ківі, 1 кг | 4,25 | **4,69** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Памідоры, 1 кг | 4,45 | **4,30** |
| Агуркі, 1 кг | 2,45 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 5,95 | **5,00** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,29 | **3,49** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,65 | **2,65** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,80** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,49 | **3,45** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | 1,20 |
| Масла, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Бульба (маладая), 1 кг | 0,80 | 2,40 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | 2,50 |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | 6,50 |

## Каб выпіць, залез у чужы дом, які падпаліў

**МАЛАДЗЕЧНА**

23-гадовы жыхар вёскі Ласі вырашыў выпіць.

Для гэтага палез у чужы дом у садовым таварыстве недалёка ад Ласёў.

Тут ён выпіў прынесенае з сабой спіртное, закурыў і заснуў з цыгарэтай у руцэ.

Ад запаленай цыгарэты загарэўся дом. Маладзён прачнуўся і пачаў ратаваць сябе. Выбягаючы з палаючага дома, прыхапіў музычны цэнтр.

Здарэнне было зімой. Пакуль устанаўлівалі асобу хлопца, той здзейсніў яшчэ адно злачынства.

У сакавіку ён залез у дом у Ласях, скраў камп'ютар з клавіятурай і сістэмным блокам, мікрахвалёўку і два ноўтбукі. На месцы злодзея ўбачыў сусед, але той уцёк са скрадзеным, якое прадаў.

15 мая завяршылі крымінальную справу. Хлопца абвінавачваюць па некалькіх артыкулах.

Распавёў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

## Крадзеж на аўтамыйцы: вынес пыласосы і з'ехаў на таксі

**МАЛАДЗЕЧНА**

36-гадовы раней судзімы маладзечанец скраў два пыласосы і два мыйныя апараты з аўтамыйкі па вуліцы Касманаўтаў у Маладзечне. Мужчына працаваў на гэтай мыйцы машыністам мыйных машын.

Ноччу 7 мая ён пранік на мыйку, забраў адтуль тэхніку, а пасля выклікаў таксі і з'ехаў дамоў. З дому на таксі паехаў у Мінск, дзе здаў усё скрадзенае ў ламбард.

14 мая ўзбудзілі крымінальную справу. Супрацоўнікі міліцыі цяпер вяртаюць маёмасць з ламбарда.

Расказаў старшы следчы Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Стукнуў жанчыну па патыліцы і ўцёк

**МАЛАДЗЕЧНА**

Супрацоўнікі Следчага камітэта ўстанаўліваюць сведак і відавочцаў хуліганскіх паводзін невядомага мужчыны.

25 сакавіка мужчына, якому на выгляд 25 год, каля 20:15 недалёка ад дома №6 па вуліцы Багдана Хмяльніцкага (побач з дзіцячай бальніцай) стукнуў па патыліцы 25-гадовую жанчыну, прычыніўшы шкоду яе здароўю.

Мужчына быў сярэдняга целаскладу, высокі, у цёмнай вопратцы.

Сведак і відавочцаў здарэння просяць патэлефанаваць у маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта па тэлефонах: **(80176) 770469, (8029) 6169271, (8029) 7019271** следчаму **Раману Арцем'еву**.

**Старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта Юры Багушэвіч.**

## Шукаў запальнічку – і ўчыніў сур'ёзную аварыю

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне было каля дзевяці вечара 12 мая, недалёка ад Радашкавічаў.

Аварыя была на 39-м кіламетры дарогі Мінск-Маладзечна-Нарач у Мінскім раёне. "Міцубісі-Галант" наехаў на "Фальксваген-Пасат", які спыніўся, каб павярнуць налева.

Пасля сутыкнення "Фальксваген" выехаў на сустрэчную, дзе сутыкнуўся з "Фіятам-Паліа".

31-гадовы кіроўца "Міцубісі", 34-гадовы кіроўца "Фальксвагена" і 37-гадовая пасажырка "Фіята" атрымалі траўмы. Па словах вадзіцеля "Міцубісі", ён адцягнуў увагу ад кіравання, шукаючы ў салоне запальніцу, каб прыкурыць цыгарэту.

**Паводле uvd-mo.gov.by.**

## Пасля ДТЗ шпіталізавалі дзвюх пасажырак

**ВІЛЕЙКА**

Здарылася гэта пасля шасці вечара 14 мая ў вёсцы Альковічы.

25-гадовы кіроўца наехаў на "Фальксвагене-Гольфе" і не справіўся з кіраваннем. Машына выехала на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнулася з "Таётай-Каралай-Верса". За рулём быў 41-гадовы кіроўца.

Дзвюх пасажырак "Таёты" даставілі ў бальніцу.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**



# Мядзяльчанін пажартаваў з сябра

## Прыставіў ружжо да галавы і націснуў на спускавы кручок

**МЯДЗЕЛ**

**Мядзяльчанін падчас распівання спіртных напояў вырашыў пажартаваць з сябра. Для гэтага ўзяў ружжо, накіраваў яго ў бок таварыша, які стаяў насупраць, і шчоўкнуў спускавым кручком. Сябар загінуў на месцы здарэння.**




Мядзяльчанін падчас распівання спіртнога вырашыў пажартаваць з сябра. Для гэтага ўзяў ружжо, накіраваў яго ў бок таварыша і націснуў на спускавы курок. Жарт скончыўся смерцю. Ілюстрацыйнае фота.

20 красавіка суд Мядзельскага раёна разгледзеў крымінальную справу па частцы 1 артыкула 139 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (наўмыснае супрацьпраўнае пазбаўленне жыцця другога чалавека (забойства).

Падчас судовага пасяджэння абвінавачаны прызнаў сваю віну. Расказаў, што быў у сяброўскіх адносінах з загінулым. 2 студзеня ў сем вечара яны выпівалі. На наступны дзень раніцай прыехалі ў вёску Куцькі, дзе набылі спіртное і выпілі. Каля чатырох дня вярнуліся дамоў, дзе працягвалі піць. Спрэчак і канфліктаў паміж мужчынамі не было.

Падкідаючы ў топку дровы, абвінавачаны звярнуў увагу на сваё ружжо, якое знаходзілася каля печкі. Вырашыў пажартаваць з сябра: навесці на яго ружжо і шчоўкнуць спускавым кручком. Адлегласць ад дульнай часткі ствала да мужчыны была не больш за два-тры метры.

**Перад стрэлам мужчына не праверыў, ці зараджанае ружжо. На судзе расказаў, што патрон, якім яно было зараджанае, раней сам снарадзіў карцеччу і ўставіў у ружжо ў апошніх чыслах снежня 2016 года – хацеў застрэліць лісу, якая прыходзіла да дома.**

Выстрал прыйшоўся пацярпеламу ў галаву. Смерць наступіла на месцы здарэння.

Пра правілы абыходжання з ружжом і яго захаваннем быў знаёмы, бо праходзіў тэрміновую службу ў арміі, ведаў, што зброю нельга накіроўваць на чалавека. Забіваць таварыша не хацеў.

Прыгаворам суда Мядзельскага раёна мужчына прызнаны вінаватым у наўмысным супрацьпраўным пазбаўленні жыцця іншага чалавека (забойстве).

Санкцыя дадзенага артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад 6 да 15 гадоў.

З улікам асобы абвінавачанага і ступені грамадскай бяспекі здзейсненага ім злачынства, абставінаў здзяйснення злачынства, станоўчай характарыстыкі па месцы жыхарства і работы яму прызначанае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 7 гадоў 6 месяцаў у папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Таксама ў адносінах да абвінавачанага прыменены прымусовыя меры бяспекі і лячэнне ад хранічнага алкагалізму па месцы адбывання пакарання.

**Паводле старэйшага памочніка пракурора Мядзельскага раёна юрыста другога класа Тацціяны ВЯЖЭВІЧ-ДЗЕМІДЗЕНКІ.**

## Кіраўнік сацыяльнай установы Валожынскага раёна падазраецца ў махлярстве

**ВАЛОЖЫН**

Валожынскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу ў дачыненні да кіраўніка аднай з сацыяльных устаноў Валожынскага раёна, якога падазраюць у ашуканскіх дзеяннях.

Старшы следчы Валожынскага АСК **Сяргей Лапцік** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што, па папярэдняй інфармацыі, службовая асоба падманным шляхам завалодала грашыма свайго падапечнага.

– Цяпер пакуль рана агучваць нейкія падрабязнасці, – кажа Сяргей Лапцік. – Зразумейце нас, людзі ў раёне паважаныя, яшчэ шмат чаго няяснага. Любая лішняя інфармацыя можа перашкодзіць следству. Скажу адно: што справа ўзбуджаная па першай частцы артыкула 209 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь "Махлярства".

Гэты артыкул прадугледжвае пакаранне грамадскімі працамі ці штрафам або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, або абмежаваннем волі на тэрмін да трох гадоў, або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

**Наталля ТУР.**

## У аўтамабілі віляйчанкі знайшлі больш за пяць кілаграмаў маку

**ВІЛЕЙКА**

Пяць кілаграмаў маку з макавай саломкай – такая знаходка чакала супрацоўнікаў вілейскай міліцыі і аддзела па барацьбе з наркотыкамі ля пасёлка Партызанскі.

– Нам паведамілі, што 11 мая жанчына, якая ўжо была судзімая за незаконнае распаўсюджванне наркотыкаў, будзе перавозіць у сваёй машыне мак, – распавядае начальнік аддзела па барацьбе з наркотыкамі Вілейскага РАУС **Юры Высоцкі**.

У час дзяжурства пасля 23:00 супрацоўнікі міліцыі затрымалі жанчыну. У машыне "Фольксваген" яна перавозіла больш за пяць кілаграмаў маку.

Па словах Юрыя Высоцкага, ужо правялі экспертызу небяспечнай знаходкі. У маку знайшлі макавую саломку. На жанчыну завялі крымінальную справу.

Фігурантка прапісаная ў Мінску, але жыве ў Вілейцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Наводзілі прыгажосць у пад'ездзе: злева направа Алена Багдановіч, Ірына Барыскевіч, маляры Ірына Левакова і Наталля Алейчык, Соф'я Бладыка. На пярэднім плане – арганізатар і натхняльнік рамонту Анатоль Багдановіч.

# Замест паштовых скрыняў – нацюрморт з валькамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыхары дома №25 па вуліцы Віленскай сваімі сіламі зрабілі рамонт у пад'ездзе.**

Цяпер яны хочуць даць пад'езду імя настаўніцы, якая калісьці жыла ў ім.

Ідэя рамонту з'явілася ў жыхара пад'езда **Анатоля Багдановіча** ў лістападзе мінулага года.

– Я не скажу, што да гэтага пад'езд быў брудны, – кажа Анатоль Веньямінавіч, – але быў звычайны, як і ва ўсіх. Я звярнуўся з гэтай прапановай да суседзяў, і яны не адмовілі.

Анатоль Багдановіч звярнуўся ў свой ЖРЭУ №6 з просьбай падлічыць, у якую суму абыдзецца касметычны рамонт у 20-кватэрным пад'ездзе.

ЖРЭУ налічылі суму 50 рублёў з кватэры.

За гэтыя грошы пафарбавалі сцены, столь, падлогу, замянілі лямпы ў пад'езде.

Усяго за некалькі дзён маляры **Ірына Левакова і Наталля Алейчык** пафарбавалі ўвесь пад'езд.

Аднак жыхарам пад'езда падалося гэтага мала. І ў справу ўступіла творчасць і крэатыўнасць.

Кожны лесвічны пралёт жыхары таго ці іншага паверха аздаблялі на свой густ.

Так на падлозе аднаго паверха з'явіліся геаметрычныя ўзоры, на паверсе другога расцвілі ружы.

На пляцоўку нехта з жыхароў вынес мяккае крэсла. А што, кажуць жыхары, і сумку паставіць, калі ключы ад дзвярэй шукаеш, і так прысесці, калі з суседкамі выйдзеш пагутарыць.

Мясцовыя гаспадыні **Алена Багдановіч**, **Ірына Барыскевіч**, **Соф'я Бладыка** на вокны зачапілі фіранкі, паставілі кветкі.

– Хочам яшчэ карнізы павесіць, – дзеліцца планамі Ірына Барыскевіч.

Самае прыемнае ў гэтым тое, што карнізы жыхары будуць купляць не за свой кошт.

У конкурсе па добраўпарадкаванні жыхары Віленскай, 25 сталі лепшымі са 168 пад'ездаў. І Маладзечанскі райвыканкам абяцаў за гэта грашовую прэмію.

– Па-першае, – кажа Анатоль Веньямінавіч, – раздам жыхарам грошы за паштовыя скрыні.

Калі рамонт быў у самым разгары, жыхары вырашылі скінуцца, каб замяніць і паштовыя скрыні таксама.

– Былі страшныя паштовыя скрыні, якія віселі адразу пры ўваходзе ў пад'езд. Цяпер скрыні новыя, павесілі іх у іншым месцы, а пры ўваходзе ў пад'езд павесілі карціну, якую намаляваў мясцовы мастак.

Цяпер жыхары пад'езда мараць запрасіць у госці **Святлану Бароўскую**, бо ў гэтым пад'ездзе калісьці жыла настаўніца зоркі беларускага тэлебачання **Людміла Станіславаўна Акладнікава**.

Святлана была раней частай госцяй у пад'ездзе. І цяпер жыхары хочуць, каб яна даведалася, якую прыгажосць стварылі жыхары сваімі рукамі, і падтрымала ідэю назваць пад'езд імем гэтай настаўніцы.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**





Кожны лесвічны пралёт у пад'ездзе выглядае цяпер па-рознаму, але аднолькава прыгожа і маляўніча. Аднак не толькі парадкам у пад'ездзе абмежаваліся жыхары. Добраўпарадкавалі дваровую тэрыторыю, пасадзілі кветкі, прычапілі на пад'езд шыльду "Пад'езд узорнага ўтрымання".

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што цікавае і незвычайнае ёсць у вашым доме або пад'ездзе



**Аляксандра Чараднік, вучаніца:**

– У мяне ў пад'ездзе любіць збірацца моладзь. Тут ёсць дзе пасядзець: стаіць старое крэсла, якое мае бацькі ніяк не збяруцца выкінуць, і сапсаваная бегавая дарожка. Для бегу яна ўжо не падыходзіць, а вось для пасядзелак у самы раз.



**Лілія Стасюлевіч, педагог:**

– Здаецца, такога, што зацікавіла б усіх, у нашым доме няма. Гэта звычайны маленькі прыгожы домік, усяго 20 кватэр. Такіх шмат у горадзе. Незвычайнае, напэўна, тое, што ў доме жывуць інтэлігентныя, ветлівыя людзі. Яны любяць свой дом і падтрымліваюць у ім амаль ідэальны парадак. Пагадзіцеся, не ўсе пад'езды пахнуць духамі?



**Алег Жмурэнка, будаўнік:**

– Нічога незвычайнага я ў сваім доме не заўважаў. Тры пад'езды, пяць паверхаў. Побач чыгунка. У доме жывуць маладыя сем'і, таму ў двары ў добрае надвор'е шмат дзятвы.



**Дар'я Маскевіч, вучаніца:**

– Мой дом цікавы тым, што ён пабудаваны не так, як усе. Наша кватэра прыбудаваная асобна да ўсяго дома. І нават падвал у нас асобны ад усіх.



**Ганна Чурко, эканаміст:**

– О, наш дом цікавы! Тут ёсць фіранкі на вокнах лесвічных пляцовак. На кожным паверсе вісіць графік дзяжурстваў, і жыхары па магчымасці стараюцца яго прытрымлівацца. На адным паверсе нават кветка стаіць. Залаты вус, здаецца.



**Святлана Капуцкая, пенсіянерка:**

– Цяпер самае незвычайнае ў нашым доме – гэта фартэпіяна. Нядаўна мы яго набылі разам з мужам. Збылася мая мара. Цяпер буду вучыцца іграць.



**Алена Чырыца, работніца аўташколы:**

– Незвычайнае, на жаль, тое, што ў нашым пад'ездзе ў доме па Вялікім Гасцінцы – бруд. Ужо 15 год ніяк не высветлім, хто павінны прыбіраць першы паверх – "Камунальнік" ці жыхары. А людзі цікавыя: 80-гадовая бабуля, працавітая, клапатлівая і аптымістка, нягледзячы на тое, што шмат перажыла. На першым паверсе жыве дырэктар "Конфы". Ён рыбак і паляўнічы. Ёсць сям'я, дзе гадуюць трох сыноў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

# Усё пачынаецца з таблічкі, світка, бярoсты…

МАЛАДЗЕЧНА

**Раённы злёт юных талентаў "Усё пачынаецца з таблічкі, світка, бяросты", прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, прайшоў у бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок" 13 мая.**

Празаічныя творы, вершы і малюнкі ўдзельнікаў злёту ацэньвала кампетэнтнае журы, у склад якога ўваходзілі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі **Тамара Бярэзіна** і **Валеры Хіхіч**, краязнаўца, публіцыст, выдавец, кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Купалінка" **Міхась Казлоўскі**, заслужаны журналіст, член Беларускага Саюза журналістаў, Саюза пісьменнікаў Беларусі **Аляксандр Хазянін**, выкладчыца дзіцячай мастацкай школы мастацтваў горада Маладзечна **Тамара Марчанава**.

– Кожны з нас зацікаўлены ў тым, каб падтрымаць юныя таленты ў самым пачатку. Часта атрымліваецца, што вельмі таленавітыя людзі пачынаюць губляцца і перастаюць пісаць, бо для стварэння твора трэба шмат цярпення, адказнасці, працавітасці, – адзначыў старшыня журы Міхась Казлоўскі.

Прызамі быў узнагароджаны кожны ўдзельнік злёту. Дыпломы першай ступені ў намінацыі "Паэзія" атрымалі **Надзея Ралавец** (гімназія №3) і **Юлія Ярашонак** (СШ№14).

– Мой верш называецца "Раніца", ён напісаны па-беларуску. У ім я распавядаю, як пачынаецца дзень у нашай сям'і, – Юлія Ярашонак з задавальненнем працытавала першыя радкі свайго твора.

Мама Юлі маладая паэтка **Аксана Ярашонак** таксама ў дзяцінстве была ўдзельніцай раённага злёту юных талентаў, які сёлета адзначае 30-гадовы юбілей. Арганізатары конкурсу нават задумаліся пра тое, каб запрасіць былых удзельнікаў і даведацца, кім яны сталі, чаго дамагліся.

У намінацыі "Проза" пераможцамі сталі **Ульяна Сянько** (СШ №1) і **Ніколь Кулага** (СШ №9). Дыпломам першай ступені ўзнагародзілі вучаніцу сярэдняй школы №8 **Валерыю Папову**, якая паклала ў аснову свайго малюнка вобразы **Францішка Скарыны**, **Янкі Купалы** і **Максіма Багдановіча**.

Музычныя падарункі для пераможцаў і ўдзельнікаў злёту падрыхтавалі вакалісткі эстраднай студыі "Спяваем разам" пад кіраўніцтвам **Алены Атрашкевіч**.

– Таленавітым можа быць кожны. Для таго каб стаць вялікім музыкантам, паэтам, мастаком, трэба валодаць такімі якасцямі, як цярпенне, сіла волі, усядлівасць. Старайцеся, і ў вас усё атрымаецца! – адзначыла метадыст раённага вучэбна-метадычнага кабінета **Клаўдзія Перхаровіч**.

**Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**
**Фота аўтара.**



Адна з пераможцаў Анастасія Васілеўская, СШ№2 Маладзечна.



Фота sb.by.

Пастановачныя здымкі ў Вілейцы прайшлі ў памяшканні, дзе хутка адкрыецца музей "У пошуках страчанага", стваральнікам яго з'яўляецца гісторык Уладзімір Ліхадзедаў.

# У Вілейцы здымалі эпізоды фільма пра Францыска Скарыну

ВІЛЕЙКА

**Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная, боронять ульев своих, – також и люди, и где зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку мають.**

Прадмова Францыска Скарыны да кнігі "Юдзіф".

Гэта ледзьве не самыя вядомыя словы, па якіх пазнаюць Францыска Скарыну. Без іх таксама не абыдзецца фільм пра першадрукара, які сёлета выйшаў да 500-годдзя беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання.

Дакументальны фільм створаны па-беларуску і называецца "Першадрук". Над ім на працягу трох месяцаў працавалі рэжысёр **Ігар Чышчэня**, аператар **Аляксандр Акавіцкі**, сцэнарыст **Уладзімір Мароз**.



Рэжысёр Ігар Чышчэня.

– Да 500-годдзя кнігадрукавання ў краіне праходзіць шэраг мерапрыемстваў: ставяцца спектаклі, выходзяць кнігі, якія дапамогуць наблізіць постаць Скарыны да людзей, усвядоміць, што гэта быў за чалавек, якімі прынцыпамі кіраваўся, раскрыецца яго сапраўдны твар, – расказвае Ігар Чышчэня. – Бо ў ранейшым успрыманні Скарына – гэта помнік, які знаходзіцца каля Нацыянальнай бібліятэкі, альбо вядомая гравюра з яго партрэтам. Але за гэтымі сімваламі мы не можам разглядзець сапраўднага чалавека. Спадзяюся, што фільм зменіць стаўленне да гэтай асобы.

### Фільм не пра асобу, а пра значнасць Скарыны

Можа ўзнікнуць пытанне, чаму фільм носіць назву "Першадрук", а не "Першадрукар", як называюць Францыска Скарыну.

– Фільм не столькі пра асобу, біяграфію Скарыны, колькі расповед пра яго дзейнасць, дасягненні, значнасць, таму і "Першадрук", – тлумачыць Ігар Чышчэня.

Калі для Уладзіміра Мароза скарынаўская тэма была вельмі блізкая, у 1989 годзе ён працаваў над стварэннем фільма "Францыск, сын Скарынін", то іншыя стваральнікі павінны былі грунтоўна пазнаёміцца з гэтай легендарнай постаццю.

У многіх пытаннях дапамагаў культуролаг, кнігазнаўца, даследчык і папулярызатар спадчыны Францыска Скарыны **Алесь Суша**. Акрамя гэтага дапамагаў перад здымкамі, прысутнічаў у кадры – даваў інтэрв'ю.

– Пры гэтым важна было не толькі даведацца пра постаць першадрукара, а пра час, у які ён жыў, гісторыю краіны, – адзначае рэжысёр. – Толькі так можна ўсвядоміць значэнне самога кнігадрукавання для чалавецтва.

Рэжысёр "Першадрукара" ўпэўнены, што ідэі Скарыны жывуць і ў сучаснасці, адна з іх – рэлігійная талерантнасць.

### Скарына ў фільме паўстае праз кнігі

У Беларусі здымкі праходзілі ў Мінску, Вілейцы і Полацку, дзе нарадзіўся першадрукар. Творчая група, якая працавала над фільмам, у літаральным сэнсе прайшла шляхам Скарыны. Здымалі ў Вільні, дзе ён працаваў, у Кракаве – там вучыўся; у Празе, дзе друкаваў першыя кнігі. Таксама ў Санкт-Пецярбургу, дзе захоўвацца "Псалтыр", самае першае выданне Скарыны; там жа адна з найбольшых калекцый скарынаўскіх выданняў.

Пастановачныя здымкі ў Вілейцы прайшлі ў памяшканні, дзе хутка адкрыецца музей "У пошуках страчанага", стваральнікам яго з'яўляецца гісторык **Уладзімір Ліхадзедаў**.

– Аднак трэба зазначыць, што ў нас не было задачы паказаць некага падобнага на Скарыну, – расказвае Ігар Чышчэня. – У першую чаргу, гэта дакументальны фільм. Скарына паўстае праз кнігі, учынкі. У фільме ёсць момант, у якім паказана работа першадрукароў. Аднаго з іх іграе сын Уладзіміра Ліхадзедава – **Дзмітры**. Аднак не трэба шукаць у мужчынах рысы Скарыны. Яны не падобныя на той кананічны вобраз, які мы прызвычаіліся бачыць у падручніках.

Фільм доўжыцца 39 хвілін. 18 мая адбудзецца перадпрэм'ерны паказ у музеі гісторыі беларускага кіно, таксама сустрэча са стваральнікамі, потым яго плануюць паказаць у кінатэатрах. У вілейскім кінатэатры "Мір" адзначылі, што фільм чакаецца ў верасні.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Фота забяспечанае Аляксандрам БАБІЕМ.

Гімназічны хор.

# Як вучыліся ў гімназіі Тамаша Зана

*Заканчэнне. Пачатак у №19.*

Пачатак у №19.

МАЛАДЗЕЧНА

**Адкрыццё гімназіі ў Маладзечне ў 1922 годзе стала знамянальнай падзеяй. На той час у мястэчку жыло менш за 2000 жыхароў. І польская гімназія імя Тамаша Зана надавала яму пэўны прэстыж.**

20 лістапада 1927 года гімназія адсвяткавала сваё пяцігоддзе.

Раніцай а дзясятай гадзіне ў парафіяльным касцёле зладзілі святочнае набажэнства. Пасля правялі асвячэнне сцяга гімназіі, на якім з аднаго боку быў намаляваны белы арол з лозунгам "Айчына, навука і добрыя справы". Свята скончылася пасяджэннем рады педагогаў.

### Рэлігія, лаціна, гісторыя Польшчы

Навучальны 1927/28 год быў па-свойму знамянальны: адчынілі восьмы клас, гімназія набыла правы навучальнай установы поўнага гуманітарнага тыпу.

З гэтага часу ніводнага вучня не вызвалялі ад аплаты. У чэрвені 1929 года правялі першыя экзамены. І ўжо 20 чэрвеня дзесяць вучняў атрымалі атэстаты сталасці. У тым жа 1927/1928 годзе ў гімназіі навучалася 152 вучні: 91 юнак і 61 дзяўчына.

Для належнага знешняга выгляду гімназіі выдзелілі 10 тысяч злотых – сума, па тых часах, астранамічная.

У справаздачы за 1930/1931 навучальны год дырэктар **Уладзіслаў Ваўрык** апісвае сістэму работы гімназіі, стан памяшканняў, матэрыяльна-тэхнічную базу, пералічвае абавязковыя і неабавязковыя прадметы.

Абавязковымі прадметамі былі рэлігія, польская мова, лаціна, нямецкая або французская мова, гісторыя Польшчы, геаграфія, біялогія, фізіка, хімія, матэматыка, ваенная справа ў хлопцаў, праца, фізкультура.

Да неабавязковых адносіліся хор, ігра на мандаліне, гітары, дудзе. Раз на тыдзень праводзілі выхаваўчыя мерапрыемствы. Часта ездзілі на экскурсіі. Дзейнічала навуковае таварыства навучэнцаў.

### Калекцыянавалі манеты, разводзілі рыбак

Ад 1927 года ў гімназіі працуе гістарычнае таварыства. Вядома, што ў 1931 годзе асаблівую ўвагу ў ім надавалі даследаванню паўстання 1830-1831 гадоў.

Сябры таварыства збіралі калекцыю манет і банкнот, кнігі 18 стагоддзя. Кіраўніком быў **Антон Анцэвіч**, настаўнік гісторыі.

Праводзілі прыродазнаўчыя навуковыя экскурсіі, разводзілі кветкі, рыбак у акварыуме.

У гімназіі быў хор, які наведвала ў 1931 годзе 58 чалавек. Спявалі духоўныя і свецкія песні.

Усе ўрачыстыя падзеі гімназіі суправаджаў духавы аркестр. У аркестры быў 21 інструмент. Іграла 20 чалавек. Кіраваў **Антон Міхайлоўскі**, настаўнік музыкі.

Асаблівая ўвагу надавалі навучанню хлопчыкаў асновам ваеннай справы. 172 гадзіны ў навучальным годзе адводзілі на занятку па стральбе з малакаліберней зброі, адпрацоўцы уменняў весці бой і абарону, навуцы аб зброі.

Працавала спартыўнае таварыства. Яно складалася з розных секцый: лёгкая атлетыка, спартыўныя гульні, стральба, плаванне.

Гімназісты ўдзельнічалі ў розных спаборніцтвах, ездзілі на спартыўныя турніры ў Вільню, займалі прызавыя месцы па розных відах спорту, акрамя плавання.

### Пяць кароў ці год вучобы?

У 1937 годзе ў гімназіі навучалася 200 чалавек. Дырэктарам быў **Антошчак**. Сярод найбольш паважаных педагогаў выкладчыкамі былі **Анцулевіч** (прыродазнаўства), **Кавалюк** (геаграфія і фізкультура), **Бачэўская** (французская мова), **Плякова** (лацінская мова), **Я. Бароўскі** (паланістыка), ксёндз **Чаплінскі** (нямецкая мова і каталіцкая рэлігія), бацюшка **Марозаў** (праваслаўная рэлігія).

За вучобу ў гімназіі ў 1930-я гады плацілі 200 злотых штогод. На гэтыя грошы можна было купіць 100 пудоў жыта ці пяць кароў.

Форма гімназістаў была сіняга колеру з акантоўкай. На берэце – эмблема з разгорнутай кнігай і паходняй.

Нягледзячы на паланізацыю, акаталічванне многія гімназісты-беларусы не адмовіліся ад свайго нацыянальнага "я", беларускай мовы і культуры. Сярод іх сын вядомага дзеяча беларускага Адраджэння **Браніслава Тарашкевіча Радаслаў Тарашкевіч**, просты настаўнік вясковай школы **Віктар Казлоўскі**, дзеячы беларускага замежжа **Павел Асіповіч**, **Міхаіл Ганько** і **Пётр Ганецкі**.

### Як усё скончылася

У канцы верасня 1939 года, калі ў Заходнюю Беларусь увайшлі савецкія войскі, пасаду дырэктара гімназіі заняў палымяны беларускі патрыёт **Янка Карпіновіч**, які выкладаў беларускую мову і літаратуру.

Нядоўгі час гімназія праіснавала як беларуская навучальная ўстанова. У кастрычніку 1939 года яе ліквідавалі. На яе базе адчынілі педагагічнае вучылішча імя Янкі Купалы, якое працавала да чэрвеня 1941 года.

Маладзечанская гуманітарна-адукацыйная гімназія была цэнтрам культурнага і духоўнага жыцця мястэчка. На працягу 17 гадоў маладыя людзі маглі вучыцца тут, а пасля працягваць вучобу ва ўніверсітэтах.

**Аляксандр БАБІЙ,**
**вучань маладзечанскай гімназіі №3.**

**Даведка "РГ". Тамаш Зан** нарадзіўся ў вёсцы Мясата (цяпер Маладзечаншчына). Удзельнік вызваленчага руху, даследчык прыроды, літаратар, музеязнаўца, геолаг. Сябар паэтаў Адама Міцкевіча і Яна Чачота. Кіраўнік першых рэвалюцыйных арганізацый у Беларусі і Літве.

КАЛЯНДАР

## 20 МАЯ



**115 гадоў** з дня нараджэння Язэпа Пушчы (сапр. Іосіф Паўлавіч Плашчынскі) (1902 – 1964), беларускага паэта, крытыка, перакладчыка. У 1923 быў адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання "Маладняк", пазней – "Узвышша". У 1926 годзе працаваў у Інбелкульце. У 1925 – 1927 вучыўся на педагагічным факультэце БДУ. Увосень 1927-га перавёўся ў Ленінградскі ўніверсітэт. На чацвертым курсе пакінуў вучобу; вярнуўся ў Мінск, у 1929-30 працаваў стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ДПУ БССР 25.7.1930. Асуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў у Чэбаксарах, Шадрынску. Вызвалены 24.7.1935. У гады вайны – на фронце. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30.1.1956. Вярнуўся з сям'ёй у Беларусь у 1958 годзе. Да апошніх дзён жыў у Мінску. Пахаваны ў Каралішчавічах. Групавая справа Я. Пушчы і іншых №20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. На беларускую мову пераклаў аповесць Аляксея Талстога "Дзяцінства Мікіты" (1960). Асобныя творы Пушчы пакладзены на музыку.

## 22 МАЯ

**110 гадоў** з дня нараджэння **Алены Аладавай** (1907 – 1986), мастацтвазнаўца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**55 гадоў** назад (1962) уступіў у лік дзеючых першы ў Беларусі доследны ядзерны рэактар.

## 24 МАЯ

**120 гадоў** з дня нараджэння **Анатоля Тычыны**, графіка, аднаго з заснавальнікаў беларускай кніжнай графікі.

## 25 МАЯ

**135 гадоў** з дня нараджэння **Ісідара Любімава** (1882 – 1937), дзяржаўнага і партыйнага дзеяча Беларусі.

**110 гадоў** назад (1907) у Вільні адбыўся з'езд народных настаўнікаў Беларусі, на якім быў створаны Беларускі настаўніцкі саюз.

**100 гадоў** з дня смерці (1917) **Максіма Багдановіча**, паэта, перакладчыка, крытыка. Пахаваны на старых гарадскіх могілках у Ялце.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ГІСТОРЫЯ

# Армія Краёва ў Налібоцкай пушчы і яе наваколлі

*Працяг. Пачатак у №19.*

Працяг. Пачатак у №19.

**ВАЛОЖЫН**

**Першым камендантам Навагрудскай акругі Арміі Краёвай (АК) быў маёр Мікалай Крайнік, падпольная мянушка Гжымала.**

Ад восені 1942 года на гэтай пасадзе яго замяніў падпалкоўнік **Януш Шульц** (Праўдзіц-Шлянскі, 1902 – 1983). Намеснікам у яго быў капітан **Уладзіслаў Ставоўскі** – Сава, афіцэр з Валожынскага палка Корпусу аховы пагранічча. Адначасова ён быў начальнікам аператыўнага аддзела штаба акругі. Штаб ўзначаліў капітан **Станіслаў Сэндзяк** (1913 – 1978). Яго падпольная мянушка Варта.

У першапачатковым перыядзе арганізацыяй Навагрудскай акругі АК займаліся 92 афіцэры і 250 падафіцэраў. Ад'ютантам каменданта, начальнікам сувязі і легалізацыі быў падпаручнік **Зянон Батаровіч** (Здзіслаў, Хмара), начальнікам разведаддзела – капітан **Баляслаў Васілеўскі** (Бустрамяк, 1918 – 1980), інтэндантам – падпаручнік **Стэфан Мэнкальскі** (Дунін), начальнікам бюро інфармацыі і прапаганды – **Станіслаў Ваўжыньчык** (Лігенза), начальнікам інжынернай службы – падпаручнік **Юзаф Лубікоўскі** (Сібірак), шыфравальшчыцамі штаба былі **Марыя Купрыяновіч** (Марыя) і **Аліна Яноўская** (Сава). Кур'ерамі штаба былі **Рэгіна Даноўская** (Котка) і Хільда – яе прозвішча невядомае.

### Абвод "Валожын"

Да лета 1942 года арганізацыя Навагрудскай акругі АК была завершаная. Гэтаму садзейнічала вяртанне з Літвы салдат і афіцэраў польскай арміі, інтэрніраваных там пасля вераснёўскіх падзей 1939 года. У гэты час быў сфарміраваны і штаб абводу "Валожын". Яго ўзначаліў падпаручнік польскай арміі **Станіслаў Трацякевіч** (Сэт), якога пазней змяніў падпаручнік **Мечыслаў Шчэрскі** (Жулік, Шчэрбіц). Кіраваць абводам ім дапамагалі падпаручнік **Ян Рэндзік** (былы настаўнік), старшы сяржант **Юзаф Дайстэтан** (Мур).

Яшчэ з пачатку 1942 года на тэрыторыі абводу "Валожын" дзейнічалі групы 4-га ўчастка Вахляжа – спецыяльнага падраздзялення АК для правядзення дыверсій і разведкі. Па падліках польскага даследчыка **Хлябоўскага**, гэтыя падраздзяленні правялі не менш за 12 дыверсій на чыгунках Ліда – Маладзечна і Радашкавічы – Заслаўе, а таксама на чыгуначнай станцыі ў самой Лідзе. Акрамя таго, 15 верасня 1942 года ў выніку нападу на пастарунак паліцыі ў Іўі яны здабылі ручны кулямёт, пяць карабінаў і дзве скрыні амуніцыі. У пачатку 1943 года атрады Вахляжа былі ліквідаваныя.

Ад пачатку 1943 года АК пачала пераходзіць на ваенную сістэму фарміравання сваіх канспіратыўных структур. Рэарганізацыя канспіратыўных структур АК змяніла тэрытарыяльны склад абводу Валожына. З яго складу выдзяляецца асяродак Іўе – Юрацішкі з кодавай назвай "Ціш". Асяродак складаўся з трох гмін былога Валожынскага павета (Юрацішкі, Лугамавічы, Трабы) і трох гмін Лідскага павета (Іўе, Ліпнішкі, Суботнікі).

У 1943 абвод "Валожын" ("Бжоза" – "Бяроза") узначаліў капітан **Станіслаў Дэдэліс** (Паль).



Фота забяспечанае Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

Капітан АК Станіслаў Сэндзяк (1913 – 1978). Начальнік аператыўнага аддзела штаба Навагрудскай акругі АК.



Фота забяспечанае Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

Палкоўнік АК Януш Шульц (Праўдзіц-Шлянскі) (1902 – 1983). З восені 1942 – камендант Навагрудскай акругі АК.



Фота забяспечанае Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

Падпаручнік Баляслаў Пясецкі. Камандзір 3-га батальёна 77-га пяхотнага палка АК.



Фота забяспечанае Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

Паручнік АК Ян Скорб (1910 – 1988).

**Першая партызанская група Навагрудскай акругі АК з'явілася ў чэрвені 1942 года.**

Гэта быў атрад пад №301, якім кіраваў афіцэр былога 23 уланскага палка падпаручнік **Ян Скорб** (1910 – 1988). Першыя партызанскія атрады АК насілі чырвонаармейскую форму, каб не наклікаць з боку акупацыйных уладаў рэпрэсій супраць мясцовага насельніцтва.

У далейшым штаб акругі правёў рэарганізацыю. На базе ранейшых атрадаў былі сфарміраваныя батальёны, з іх аб'ядноўваліся злучэнні. На базе злучэнняў прадугледжвалася стварэнне палкоў, якія існавалі на тэрыторыі Навагрудскага ваяводства да верасня 1939 года (77 пяхотны полк (Ліда), 78 пяхотны полк (Баранавічы), 27 полк уланаў (Баранавічы).

Былі ўтвораныя Наднёманскае, Паўночнае, Усходняе, Заходняе, Стаўбцоўскае злучэнні. Абвод "Валожын" ўваходзіў ў склад Усходняга злучэння. Кіраваў злучэннем капітан **Станіслаў Дэдэліс** (Паль). У складзе злучэння былі: 3-ці (ударны кадравы) батальён 77 пяхотнага палка, камандзір падпаручнік **Баляслаў Пясецкі**, колькасцю 480 чалавек; 6-ы батальён 77-га пяхотнага палка, камандзір **Станіслаў Дэдэліс**, колькасцю 520 чалавек.

Стаўбцоўскае злучэнне базіравалася ў Налібоцкай пушчы паміж Ракавам і Івянцом. Камандаваў гэтым злучэннем паручнік **Адольф Пільх** (Гура, Даліна). У склад гэтага злучэння ўваходзілі: 1-ы батальён 77 пяхотнага палка, камандзір капітан (ваенны лётчык) **Вітольд Грыневіч** (Дзвіг); 27 уланскі полк, камандзір харунжы **Здзіслаў Нуркевіч** (Ноч, Нячай).

У паўночнай частцы Налібоцкай пушчы базіраваліся некаторыя аддзелы 8-й Ашмянскай брыгады АК пад кіраўніцтвам паручніка **Вітольда Туронка** (Тур).

### Восем тысяч у баявых часцях

У абводзе Іўе – Юрацішкі першы аддзел паўстаў у лютым 1943 года. У раёне Лугамовічы – Трабы – Юрацішкі быў створаны 321 атрад АК, якім камандаваў падпаручнік **Здзіслаў Булак-Булаховіч** (Здрай) – сын вядомага на Беларусі з часоў грамадзянскай вайны генерала **Станіслава Булак-Булаховіча** (1883 – 1940). Потым гэтым атрадам кіраваў камендант пляцоўкі Ізабелін **Э. Кульпекша** (Рысь). Атрад №322 узначальваў Лемперт. Галоўнай мэтай гэтых атрадаў была так званая самаабарона. Таму праявілі сябе гэтыя атрады пераважна ў барацьбе з савецкімі партызанамі.

У кастрычніку 1943 года ў раён Іўя з сярэдняй Польшчы прыбыў 3-ці ўдарны кадравы батальён 77 пяхотнага палка пад камандаваннем падпаручніка **Баляслава Пясецкага** (Сабалеўскага) і паручніка **Станіслава Каралькевіча** (Шчэнснага). Батальён быў укамплектаваны пераважна гарадской моладдзю з Мазоўша і Падляшша, меў у сваім складзе многа афіцэраў і падафіцэраў. З канца 1943 года сюды былі накіраваныя аддзелы "Рагнера" і 6-ы батальён 77 пяхотнага палка пад кіраўніцтвам капітана Станіслава Дэдэліса (Паль). Усе яны ўтварылі злучэнне "Усход" Навагрудскай акругі АК

У канчатковай фазе свайго існавання Навагрудская акруга Арміі Краёвай налічвала каля васьмі тысяч чалавек непасрэдна ў баявых часцях. Акрамя таго, у канспіратыўнай сетцы было задзейнічана болей за 15 тысяч тых, хто прыняў прысягу. Са студзеня 1942 года і да прыходу Чырвонай Арміі фарміраванні АК Навагрудскай акругі правялі 102 узброеныя сутычкі з акупацыйнымі войскамі.

**Працяг будзе.**

**Уладзімір ПУЧКОЎ,**
**навуковы супрацоўнік Валожынскага краязнаўчага музея.**

# Паставілі білборд з сонечнай батарэяй

ВІЛЕЙКА

**На ўездзе на базу адпачынку Вілейскага лясніцтва нядаўна ўстанавілі білборд з сонечнай батарэяй.**

– Цяпер у раёне шмат розных аграсядзібаў, таму канкурэнцыя вялікая, – кажа намесніца дырэктара доследнага лясгаса **Таццяна Анішчык.** – Вось мы і вырашылі паставіць такі білборд пра адпачынак на нашай базе, каб на яго звярталі ўвагу і ўвечары, і ўночы. Бо ад сонечнай батарэі білборд будзе падсвечвацца ў цёмны час сутак.

На білбордзе размясцілі кантактную інфармацыю пра паляўнічыя домікі, дзе можна адпачыць.

Па словах супрацоўнікаў лясгаса, падсветка атрымліваецца не такая яркая, як ад звычайнай сеткі, але гэта не страшна. Рэклама на білбордзе добра глядзіцца і ўначы.

У лясгасе расказалі, што ў Еўропе ўжо даўно выкарыстоўваюць падсветку білбордаў з дапамогай сонечных батарэй.

Аксана ЯРАШОНАК.




У лясгасе расказалі, што ў Еўропе ўжо даўно выкарыстоўваюць падсветку білбордаў з дапамогай сонечных батарэй.
Фота Ігара МАРОЗА,

# Жыхары Смаргоні і Вілейкі ўступілі ў будучыню з 3G-сувяззю ад velcom

**У мінулым годзе мабільны аператар velcom пабудаваў самую вялікую ў Беларусі 3G-сетку, запусціўшы базавыя станцыі новага стандарту UMTS-900. Усяго такіх станцый на тэрыторыі нашай краіны зараз налічваецца больш за тры тысячы штук. Цяпер мабільная сувязь ад velcom даступная нават у самых глухіх вёсках, у нізінах, на магістралях, на хутарах пасярод густой пушчы – практычна ўсюды. Сувяззю пакрыта 94% тэрыторыі Беларусі, дзе пражывае 99% жыхароў краіны. І здаецца, карыстальнікі мабільнай сувязі з беларускай глыбінкі адчуваюць сапраўднае здзіўленне, выяўляючы перавагі «новага 3G».**



### “Мядзведжыя куты” адмяняюцца!

Са стрыечнай сястрой, якая жыве ў вёсцы ў Смаргонскім раёне, мы прывыклі мець зносіны выключна па стацыянарным тэлефоне. Некалькі гадоў запар усе мае спробы наладзіць паўнавартасныя зносіны па мабільным нязменна праваліваліся. “Ты не ўяўляеш, якая дрэнная ў нас тут сувязь! Сапраўдны мядзведжы кут!” – кожны раз гаварыла яна мне, уздыхаючы. І нагадвала, што дом знаходзіцца ў нізіне, і, каб злавіць сігнал, даводзіцца выходзіць на двор. А калі зусім дакладна, то да брамкі, там, дзе прыбіта паштовая скрыня. Мы заўсёды смяяліся з гэтага “пункта сувязі” і жартам грозіліся адрадзіць эпісталярны жанр і пісаць адзін аднаму доўгія падрабязныя лісты. Усё ж лепш, чым заставацца ў паштовай скрыні... А тут раптам яна патэлефанавала мне на мабільны сама! Гэта было так нечакана, што я нават захвалявалася. Думаю, ці не здарылася чаго? І праўда, аказваецца, здарылася. “Ведаеш, адкуль я табе тэлефаную?” – пытаецца стрыечная сястра, а голас такі шчаслівы-шчаслівы і крышачку таямнічы. “З Парыжа, ці што?” – ляпнула я, а яна засмяялася мне прама ў вуха і сказала, што тэлефануе з уласнага дома, таго самага, што ў нізіне. Сядзіць з кубкам гарачай гарбаты, захутаўшыся ў плед, у сваёй уласнай кухні, і ёй больш не трэба выбягаць на вуліцу да паштовай скрыні, каб лавіць непаслухмяны сігнал. І значыць, яе вёска больш ужо ніякі не мядзведжы кут.

Самае пацешнае, што яе тэлефонны званок застаў мяне таксама ў “нізіне”: гуляючы па сваім горадзе, я якраз увайшла ў маленькі магазінчык у цокальным паверсе пяціпавярхоўкі. Яшчэ год таму мабільная сувязь на ніжніх паверхах будынкаў была нестабільная, а цяпер яна проста бездакорная дзякуючы новаму стандарту сувязі. Ды што там цокальныя паверхі – цяпер мабільная сувязь даступная нават у мінскім метро! І калі пачуць, што кажа табе суразмоўца, не заўсёды магчыма з-за гулу электрычкі, то абменьвацца смс-паведамленнямі або перапісвацца ў месенджары ўжо сапраўды нішто не перашкодзіць.

Зараз мы гаворым са стрыечнай сястрычкай куды часцей, чым раней. Абменьваемся навінамі, уражаннямі ад сустрэч, кніг і фільмаў і проста балбочам. Аказваецца, у нас вельмі многа агульных поглядаў. Гэта так здорава – быць на сувязі з блізкімі людзьмі, нягледзячы на адлегласць, якая нас падзяляе!

Нядаўна мой званок застаў яе ў дарозе, калі яны ўсёй сям'ёй ехалі ў машыне. Яна адразу папярэдзіла мяне, што доўга гаварыць не зможа, бо ў любую хвіліну сувязь можа абарвацца. Але нічога падобнага не адбылося, бо сёння дзякуючы абноўленай 3G-сеткі мабільная сувязь і мабільны інтэрнэт даступныя на ўсіх магістралях і многіх іншых аўтамабільных дарогах краіны. Так што адзіная прычына, па якой вам не варта гаварыць у дарозе па мабільным тэлефоне, – гэта тое, што вы самі знаходзіцеся за рулём. А вось пасажыры могуць не толькі размаўляць па мабільным тэлефоне, але і папросту карыстацца мабільным інтэрнэтам. Можна праверыць электронную пошту, прагартаць стужку ў сацыяльнай сетцы або нават паглядзець мультыкі. Між іншым, гэта вельмі актуальна, калі вы падарожнічаеце з маленькімі дзецьмі. Больш вам не прыйдзецца у сто пяты раз адказваць на сакраментальнае пытанне дзіцяці: “Ну калі мы ўжо прыедзем да бабулі?” Хутчэй за ўсё ў вас раз-пораз будуць пытацца: “А яшчэ адзін мульцік можна паглядзець?”

### “Некусачыя” тарыфы

Дарэчы, аб даступным мабільным інтэрнэце. З надыходам 3G-эры мабільны аператар прапануе прывабныя тарыфы па “некусачых” цэнах як новым, так і дзеючым абанентам. Якая прапанова падыходзіць менавіта вам? Як выбраць “правільны” тарыф? Давайце разбірацца.

Для самых эканомных абанентаў кампанія прапануе **тарыфны план “Зручны”**. Мабыць, да яго варта прыглядзецца больш уважліва. У гэты тарыфны план уключана 300 хвілін унутры сеткі і 300 МБ інтэрнэт-трафіку. Але калі вы цэніце зносіны па тэлефоне гэтак жа, як мая стрыечная сястра, то “выгаварыць” тарыфныя хвіліны ў вас можа атрымацца раней, чым скончыцца месяц. Гэта не бяда – вам зусім не прыйдзецца даваць зарок маўчання да наступнага месяца. Бо тарыф нездарма называецца “Зручным”: вычарпаўшы ліміт, вы можаце працягваць здзяйсняць званкі, а кошт дадатковых званкоў у сетцы 3G складзе ўсяго толькі 2 капейкі за хвіліну. Прадугледжаны і спецыяльныя прыемныя бонусы: новыя абаненты, падключаючыся на тарыфны план “Зручны”, атрымаюць 750 хвілін у 3G-сетцы velcom і зніжку 50% на абаненцкую плату на працягу 90 дзён. Такім чынам, абаненцкая плата складзе 2,45 рубля ў месяц.

Такі параметр, як уключаны аб'ём інтэрнэт-трафіку, асабліва важны для аматараў “завісаць” у сеціве. Раз-пораз праглядаеце навінавыя стужкі, слухаеце ў інтэрнэце музыку, лайкаеце посты сваіх сяброў у сацсетках, а самі жывяце пад дэвізам “ні дня без радка ў “Аднакласніках” і “Укантакце”? Тады прыглядзьцеся да новых тарыфаў лінейкі “Камфорт”. Новыя тарыфы былі распрацаваны з улікам патрэбаў абанентаў у інтэрнэт-трафіку. З любым з іх мабільны інтэрнэт будзе па-сапраўднаму танным нават звыш абранага ліміту (у залежнасці ад пераваг), а размовы могуць стаць бясконцымі. Напрыклад, самы “лёгкі” прадстаўнік лінейкі – **“Камфорт лайт”** – прадугледжвае цэлых 500 хвілін гутарак у 3G-сетцы velcom, яшчэ 50 хвілін на званкі ва ўсе сеткі, а таксама 500 МБ інтэрнэт-трафіку. Абаненцкая плата для дзеючых кліентаў складае 8 рублёў 15 капеек. А для ўсіх новых абанентаў прадугледжана 50% зніжка на абанплату, а таксама прыемныя бонусы: дадатковыя 6 ГБ трафіку і дадатковыя 450 хвілін на званкі ва ўсе сеткі на 90 дзён.

Тым, хто ўжо даўно крочыць у нагу з мабільным аператарам velcom, варта звярнуць увагу на новую прапанову кампаніі – пакет **“250 хвілін у 3G-сетцы velcom”**. Пакет з абаненцкай платай 2 рублі 90 капеек можна падключыць практычна да любога тарыфнага плану ў асабістым кабінеце або з дапамогай USSD-запыту *118*2# выклік – і выкарыстоўваць 250 хвілін для ўнутрысеткавых гутарак у сетцы 3G velcom. Хвіліны пакета “250 хвілін у 3G-сетцы velcom” не будуць расходавацца пры званках на “любімыя” нумары.

Усё больш беларусаў пераходзяць на новыя тэхналогіі, каб плаціць менш, а атрымліваць больш – перш за ўсё, званкоў і мабільнага інтэрнэту. А заадно – карыстацца мабільнай сувяззю высокай якасці практычна ў любым кутку Беларусі.

**Святлана Нагорная.**

ТЭМА НУМАРА

# У Вілейцы павінны з'явіцца сучасны спартыўны комплекс

ВІЛЕЙКА

**Гарадскі стадыён на працягу двух гадоў павінны стаць сучасным спартыўным комплексам, перакананы намеснік начальніка аддзела адукацыі спорту і турызму Алег Гаўрышчук.**

Рэканструкцыю ўжо пачалі, расказалі ў аддзеле. Плануюць, што на стадыёне з'явіцца новае футбольнае поле, трыбуны, хакейная каробка і пляцоўкі для гульні ў валейбол і баскетбол.

### Пластыкавыя сядзенні і новы газон

Важны артыкул выдаткаў – новае футбольнае поле. Тут зробяць газон. Памяняюць трыбуны. Замест драўляных лавак будуць пластыкавыя сядзенні. Працы ў гэтым накірунку ўжо вядуць, трыбуны дэмантуюць.

На стадыёне можна будзе гуляць не толькі ў футбол. На адным баку размесцяць пляцоўкі для валейбола і баскетбола. На другім – хакейную каробку, якую будуць заліваць зімой у марознае надвор'е. Для аматараў лёгкай атлетыкі запланавалі зрабіць бегавыя дарожкі. Адна будзе вакол футбольнага поля, а другая – прамая.

Усе работы павінны завяршыць праз два гады. Па словах Алега Гаўрышчука, найбольш часу пойдзе на тое, каб зрабіць якаснае футбольнае поле. Пляцоўкі для спартыўных гульняў і трыбуны можна зрабіць хутчэй.

Газон на футбольным полі, хутчэй за ўсе, будзе натуральны. Варыянт штучнага пакрыцця таксама разглядалі, але ён будзе каштаваць даражэй.

Побач са стадыёнам размесцяць аўтастаянкі. Гораду неабходная новая арэна, перакананы Алег Гаўрышчук.

### Футбаліст 1980-х: мы заўсёды марылі пра нармальнае футбольнае поле

Вілейскі спартсменветэран настаўнік фізкультуры **Аляксандр Шэры** шмат гуляў на вілейскім гарадскім стадыёне ў абласных і рэспубліканскіх спаборніцтвах па футболе. Такому гораду, як Вілейка, неабходны лепшы стадыён, кажа спартсмен.

– На пачатку 1980-х каманда "Зеніта", за якую я гуляў, трапіла на рэспубліку, – прыгадвае Аляксандр Шэры. – Тады рэспубліканскія спаборніцтвы па футболе зладзілі на вілейскім гарадскім стадыёне. Шмат праходзіла тут і абласных спаборніцтваў.

На той час стадыён у Вілейцы нам падаваўся больш-менш нармальным, кажа спартсмен. Былі трыбуны і лавачкі.

Аднак пра якаснае футбольнае поле вілейскія футбалісты, па словах Аляксандра Шэрага, марылі яшчэ ў 1980-я.

> – Ужо неаднаразова спрабавалі зрабіць што-небудзь з полем, – кажа Аляксандр. – Аднак безвынікова. Няхай на гэты раз усё атрымаецца.

### Былы спартсмен і трэнер Юры Грэцкі: я зламаўся на вілейскім стадыёне

Юры Грэцкі цяпер жыве і працуе ахоўнікам у Маладзечне. А нарадзіўся мужчына ў Вілейцы. Тут пачаў сур'ёзна займацца футболам. Але з любімай гульнёй прыйшлося расстацца ў 22 гады.

– У канцы 1990-х я гуляў на вілейскім гарадскім стадыёне, – прыгадвае мужчына. – Мне падавалі пас, хацеў адбіць. Футбольнае поле было няроўнае. І буцам я трапіў у ямку. У калене нешта затрашчала.

Так Юры пашкодзіў меніск на адной назе. Па словах былога спартсмена, гэта распаўсюджаная траўма сярод футбалістаў. Юрыю зрабілі аперацыю.

Амаль два гады ён не выходзіў на поле, а пасля вярнуўся да футбола. І тут жа на вілейскім стадыёне пашкодзіў меніск ужо на другой назе.

Давялося зноў рабіць аперацыю. Але пасля яе гуляць у футбол Юры ўжо не змог. Некаторы час быў трэнерам у Вілейцы.

Юры чуў пра тое, што на вілейскім стадыёне праводзяць рэканструкцыю. Аднак да канца не верыць у тое, што тут з'явіцца якаснае бяспечнае футбольнае поле.

### Каля ста гадоў таму на стадыёне ў Маладзечне скакалі коні і праходзілі парады

Каб даведацца пра гісторыю вілейскага стадыёна, мы звярнуліся да пісьменніка і краязнаўцы з Маладзечна **Уладзіміра Садоўскага**.

– Гісторыяй стадыёна ў Вілейцы я пакуль не займаўся, – кажа даследчык. – Аднак пра маладзечанскі гарадскі стадыён магу расказаць.

Сённяшні стадыён у Маладзечне знаходзіцца на месцы былога польскага іпадрома. У 1920-30-гады тут праводзілі конныя спаборніцтвы, ладзілі вайсковыя парады.

Яшчэ адзін стадыён быў ля сённяшняй другой школы. Цяпер тут вучні займаюцца фізкультурай. А ў польскія часы праходзіла "фізуха" ў польскіх вайскоўцаў тэрміновай службы.

Калі ўлічыць, што ў Вілейцы стадыён знаходзіцца побач з будынкамі польскіх казармаў, можна меркаваць, што ў 1920-30-х гадах тут таксама польскія вайскоўцы займаліся фізічнай падрыхтоўкай.


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99



Фота vk.com



Фота vk.com

Моманты гульні на гарадскім стадыёне да рэканструкцыі паміж камандамі "Вілія" і "Хімік-Беларуськалій" 4 верасня 2016 года.



Фота Ігара МАРОЗА.

Май 2017 года. На стадыёне ідзе рэканструкцыя.

# Сезон ФК “Маладзечна” распачаў перамогай,

## а на стадыёне – рэкордная колькасць гледачоў

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 13 мая, у матчы 4-га тура другой лігі “Маладзечна-ДЮСШ-4” на сваім полі заваявала перамогу над рэчыцкім “Спадарожнікам”. Выніковы лік 2:1.**




**Маладзечанская каманда пачала сезон у новай форме, дзе прозвішчы гульцоў напісаныя на беларускай мове. Упершыню ў другой лізе.**

Паводле пратакола, на матч прыйшло 1 700 гледачоў.

І гэта стала рэкорднай наведвальнасцю матчаў другой лігі.

Урачыстасць першага дамашняга матча падкрэслівалі і дзяўчаты з хлебам-соллю, і маладзечанскія футбалісты, якія фарсілі ў новай форме. І дзеці, якіх за руку выводзілі перад пачаткам матча футбалісты.

Таксама на матчы прысутнічаў намеснік начальніка Маладзечанскага аддзела адукацыі, спорту і турызму **Мікалай Шрымф**, які прывітаў гульцоў і пажадаў ім спартыўнай удачы.

Пачаўся матч з лёгкай шокавай тэрапіі ад саперніка.

Ужо на трэцяй хвіліне госці з Рэчыцы змаглі адкрыць лік.

Адквітацца ў маладзечанцаў атрымалася на 27 хвіліне. Гол забіў **Ігар Талькоўскі.**

А ў другім тайме яшчэ адзін наш Ігар, цяпер **Нарожнік**, на 72 хвіліне зрабіў лік матча канчатковым – 2:1.

Мяркую, не перабольшу, калі скажу, што апошнія пяць хвілін матча каштавалі ўсяго матча. Столькі небяспечных момантаў, такая хуткасць!

Прынамсі, ці вялікая розніца, выйгралі маладзечанцы з лікам 2:1 ці выйгралі б з лікам 4:1? Усё адно, перамога наша!

Пасляматчавы каментар галоўнага трэнера маладзечанцаў **Сяргея Дараховіча** быў багаты на шчырыя словы ў адрас сваіх гульцоў.

– Усе малайцы! – коратка сказаў ён. І дадаў:

– Задача на матч ставілася перамагчы. Цяпер сваёй гульнёй мы будзем імкнуцца вярнуць балельшчыка на стадыён. Балельшчыка не падманеш. Толькі гульнёй, галамі і камбінацыямі можна вярнуць гледача на стадыён.

І яшчэ прызнаўся, што іграць самому лягчэй, чым трэніраваць.

Ну, і прыгожы дэсерт прыгатавалі фанаты сваёй камандзе. Фаершоу, якое нават аблокі расфарбавала ў зялёна-белыя камандныя колеры, трэба было проста бачыць.

Наступны дамашні матч адбудзецца 27 мая. Чакаем у госці Гомель.

**Наталля ТУР.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Хочаце, каб ваша дзіця вучылася ў Гарвардзе? Вучыце яго шахматам

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі бацькі не толькі любяць сына ці дачку, але і жадаюць ім быць паспяховымі, то абавязкова будуць вучыць гуляць у шахматы.**




У гэтым упэўнены маладзечанец **Віталь Качаткоў** (на фота) – майстар спорту міжнароднага класа па шахматах, музыкант, спявак, бізнесмен і бацька траіх дзяцей. Гэтай вясной ён выдаў кнігу задач па шахматах для пачаткоўцаў “Мат у адзін ход”. А для таго, каб гэтай разумнай гульні не баяліся нават тыя, хто не ведае назвы фігур, мы запрашаем павучыцца разам з “РГ”.

Але ў першую чаргу Віталь Качаткоў крыху раскажа пра тое, чаму менавіта шахматы – гэта так важна:

– Я паглядзеў сёння, што на адну вакансію чарга ў 107 чалавек. Ведаеш, што за вакансія? Вартаўніка. Хіба хтосьці з бацькоў не хацеў бы, каб іх дзеці заўсёды перамагалі? І я ўпэўнены, што шахматы дапамагаюць выхаваць дзіця здольным раскласці любую лагічную задачу, а ў будучым стаць непераможным у канкурэнтнай барацьбе. У Швецыі і многіх школах ЗША шахматы – агульнаадукацыйны прадмет. Дарослыя ведаюць, як лянота нечым заняцца. А дзецям яшчэ больш лянота! Таму я раю клапатлівым бацькам выдзеліць 15-20 хвілін у дзень на тое, каб займацца з дзецьмі шахматамі. Рашайце па задачы ў дзень – і праз некалькі месяцаў вы дакладна заўважыце вынік таго, што ўклалі ў сына ці дачку. Галоўнае, займацца разам і сістэматычна. Прадстаўнікі любога сілавога спорту паважаюць шахматы.

**Таму што нішто так не развівае логіку, як гэта гульня. У іерархіі барацьбы шахматы заўсёды на вышыні.**

Напрыклад, у хакеі далёка не ўсё робіцца на лёдзе. Яшчэ адзін прыклад павагі да шахмат – гэта тое, што званне міжнароднага майстра спорту па шахматах з'яўляецца абгрунтаваннем для паступлення ў Гарвард на бясплатнае. Паверце мне, бацьку траіх дзяцей, што вучыць дзяцей шахматам – адзін з найважнейшых унёскаў у паспяховую будучыню сына ці дачкі.

Саму кнігу са 180 задачамі можна набыць у крамах “Белкнігі”, а таксама ў сетцы “Белсаюздруку”. Аўтар кажа, што ў кнізе ёсць, як мінімум, дзве памылкі. Калі вы іх знойдзеце, звяжыцеся з рэдакцыяй “РГ”. Аўтар абяцае вам падарунак за пільнасць!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




**Задача №1 з кнігі Віталя Качаткова “Мат у адзін ход”. Калі вы дашляце адказ на задачу да 24 мая на адрас regionnews@rh.by, то паўдзельнічаеце ў розыгрышы кнігі “Мат у адзін ход”.**

## Лепшыя плыўцы ў Вілейскім раёне працуюць у лясніцтве

ВІЛЕЙКА

У басейне зладзілі раённыя спаборніцтвы па плаванні. Каманда Вілейскага лясніцтва заняла першае месца.

– Спаборніцтвы праводзілі ў рамках штогадовай спартакіяды, – расказала намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце Вілейскага доследнага лясгаса **Таццяна Анішчык.**

На працягу года на спартакіядзе прадстаўнікі арганізацый Вілейшчыны спаборнічаюць у лыжах, настольным тэнісе, валейболе.

У нядаўніх спаборніцтвах па плаванні каманда ў складзе памочніка ляснічага Любанскага лясніцтва **Вольгі Тумаш**, майстра лесу Ільянскага лясніцтва **Сяргея Пятровіча** і лесніка Вязынскага лясніцтва **Андрэя Буслаўскага** заняла першае месца сярод 12 камандаў.

Па словах Таццяны Анішчык, удзельнікі плылі вольным стылем на час. Для жанчын вызначылі дыстанцыю 25 метраў, для мужчын – 50.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Нулявая нічыя “Смаргоні”

СМАРГОНЬ

“Смаргонь” спыніла пройгрышную серыю. У шостым туры чэмпіяната Беларусі па футболе ў першай лізе смаргонцы 13 мая прымалі “Прамень” з Мінска – каманду, якая найлепей стартавала ў турніры. Матч завяршыўся нулявой нічыёй.

У пасляматчавым каментары галоўны трэнер **“Праменя” Іван Біёнчык** прызнаўся, што засмучаны вынікам.

– У нас за спінай тры паражэнні, і задача мінімум была рэабілітавацца перад сваімі заўзятарамі, – прыводзяць словы галоўнага трэнера ФК “Смаргонь” **Аляксей Дварэцкі.** – Аб'ектыўна скажу, рады набранаму ачку. Мы рыхтуемся да кожнага саперніка... У прынцыпе, вынікам задаволены. Для нас гэта набранае ачко – пераломны момант. Будзем спадзявацца на гэта, будзем старацца, будзем замацоўваць.

“Смаргонь” набрала сем ачкоў і займае дзявятае месца. Працягне чэмпіянат каманда ў гасцях 20 мая супраць “Слоніма-2017”, на рахунку якога столькі ж ачкоў.

## “Чысць” перамагла ў гасцях

АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў другой лізе “Чысць” у гасцях перайграла “Вікторыю” з Мар'інай Горкі 3:2. У “Чысці” галы забівалі **Дзяніс Казючыц, Аляксандр Вярэніч**, а на 86-й хвіліне перамогу прынёс **Аляксей Кашэўскі.**

“Ашмяны-БДУФК” у гасцях 13 мая прайгралі “СМІаўтатрансу” са Смалявіцкага раёна 1:2. Адзіны гол у ашмянцаў пасля перапынку забіў **Дзмітры Дайнэка.**

“Чысць” паднялася на сёмае месца, “Ашмяны-БДУФК” засталіся на апошнім.

## У смаргонцаў – трэцяе месца

СМАРГОНЬ

У Смаргоні на стадыёне ДЮСШ 12-14 мая праходзіў рэспубліканскі турнір па футболе сярод юнакоў 2005 года нараджэння Smorgon bear 2017. У турніры ўдзельнічалі пяць камандаў: ДЮСШ Ліды, ПМЦ-ФСК Паставаў, “Алмаз” з Гродна, ФК “Граніт” з Мікашэвічаў і ДЮСШ Смаргоні.

Перамаглі юныя футбалісты з Ліды, паведамляе дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па футболе Смаргоні. Смаргонцы занялі трэцяе месца.

Вызначылі найлепшых гульцоў турніру. Паміж імі ёсць смаргонцы. Найлепшым нападаючым прызналі **Леаніда Рашкевіча**, а абаронцам – **Паўла Дудзінскага.**

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

## У аграрным каледжы ў Ілы – новы дырэктар

ВІЛЕЙКА

Ад трэцяга мая ў Ільянскім аграрным каледжы пачала працаваць дырэктарам **Вольга Танюкевіч** (на фота).



Яна нарадзілася ў Ілы. Тут скончыла мясцовую школу.

У 1998 годзе з чырвоным дыпломам скончыла Ільянскі сельскагаспадарчы тэхнікум (цяпер Ільянскі аграрны каледж), у 2003 – акадэмію ветэрынарнай медыцыны ў Віцебску, у 2006 – Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы.

Працавала выкладчыцай у каледжы, вядучым спецыялістам у Ільянскім сельвыканкаме.

Гадуе сына і дачку.

Да 3 мая абавязкі дырэктара каледжа выконваў **Аляксандр Мікуцкі**.

Пра гэта расказалі ў Ільянскім аграрным каледжы.

## У Вілейцы будуюць новую пяціпавярхоўку

ВІЛЕЙКА

Пяціпавярховы дом будуюць уздоўж дарогі па вуліцы Незалежнасці.

У ім будуць два пад'езды і 30 кватэр. Каля дома – невялікі двор. Побач размесцяць аўтастаянку са стопрацэнтнай колькасцю машынамесцаў.

Па словах галоўнага архітэктара **Дзмітрыя Гарланава**, дом будуюць па дзяржзаказе.

**Аксана ЯРАШОНАК**

## Пройдзе вечарынка традыцыйных танцаў

ВІЛЕЙКА

25 мая на Вілляніным хутары а шостай гадзіне вечара пройдзе вечарынка традыцыйных танцаў.

Запрашаюць усіх, хто хоча патанцаваць і адчуць смак сапраўднай народнай культуры. Уваход вольны.

**Паводле этнаграфічнага клуба "Кола".**

## У Вілейцы з'явілася месца, каля якога ўсе фатаграфуюцца

ВІЛЕЙКА

У скверы Вілейскага дзяржаўнага каледжа з'явіўся знак з выявай фотаапарата "Зеніт Е", які выпускалі на заводзе "Зеніт-БелОМА" з 1973 года.

На знаку надпіс "Месца ў Вілейцы, каля якога ўсе фатаграфуюцца".

У каледжы ўпэўненыя, што ён будзе служыць напамінам пра мінулае завода і каледж, які рыхтуе для прадпрыемства кадры. Спадзяюцца, што месца будзе прываблівацьжыхароў горада і гасцей для фотасесій.




Фота забяспечана Вілейскім дзяржаўным каледжам.

Апошнім часам на тэрыторыі вілейскага каледжа з'явілася лаўка аўтамабіліста, цяпер устанавілі знак з выявай фотаапарата "Зеніт".

**Даведка "РГ".** "Зеніт" – завод у Вілейцы, які ўваходзіць у сістэму "Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання". Прадпрыемства створанае ў 1973 годзе, як адно з вядучых вытворцаў аптычных прыбораў на тэрыторыі былога СССР. Перад прадпрыемствам была пастаўленая задача: зняць дэфіцыт люстраных фотаапаратаў тыпу "Зеніт", які выраблялі на Краснагорскім механічным заводзе. Планавалася асвоіць выпуск больш за 1,1 мільёна фотаапаратаў у год. Першыя мадэлі, якія выпускаў завод, "Зеніт-Е", "Эцюд" з фіксаваным аб'ектывам, устаноўленым на пастаяннай адлегласці.

**Аддзел інфармацыі.**

# Як беларусы дапамагалі сабе магіяй

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра тое, як беларускія жанчыны баранілі вёскі ад усяго ліхога, як перадаваліся чароўныя сілі і што бывае, калі варажыць з люстэркам, распавёў госць заняткаў маладзечанскіх курсаў "Мова нанова" ў аўторак, 16 мая.**

Этнограф, фалькларыст, даследчык традыцыйнай культуры **Аляксей Глушко** для слухачоў курсаў акрэсліў некаторыя моманты беларускіх магічных практык. Звесткі, якія прыводзіў у прыклад, ён адшукваў падчас даследчых экспедыцый па розных раёнах Беларусі.

### Што такое іншы свет

Асновай разумення магіі было падзяленне на гэты свет і іншы, нябачны. Меркавалася, што іншасвет – гэта пляцоўка для звышнатуральных сіл, а з дапамогай магіі чалавек уздзейнічае на іх так, каб яны дапамагалі. Было такое разуменне, што іншасвет – ён такі самы, як і наш, толькі там усё наадварот. Калі ў гэтым чалавек памірае, то там нараджаецца.

Гэта разуменне беларусы выкарыстоўвалі і на практыцы.

**Напрыклад, заблукаўшы ў лесе, мянялі чаравікі з нагі на нагу – левы абувалі на правую нагу, а правы – на левую, ці апраналі адзенне навыварат. Меркавалася, што гэта дапамагала знайсці правільную дарогу.**

У лексіцы ёсць такая адметнасць. Беларусы ўжывалі слова "ведае" ці "знае" без азначэння, калі прадмет гаворкі тычыцца сакральных рэчаў: "Вось тая ведае". Гэта значыць, што названы валодае ведамі, з якімі незнаёмы звычайны чалавек.

### Адваджвалі ліхое

Частка магічных практык тычылася каляндарных абрадаў, якія паўтараліся з году ў год. Гэта звязанае з земляробчымі працамі і ўраджаем. Напрыклад, заворванне для блаславення ад духаў жытняга поля, провады русалкі на Русальны тыдзень, зажынанне.

Напоўненыя сімволікай былі і сямейныя абрады, напрыклад, хрэсьбіны. Дзіця трэба было абнесці вакол стала, каб трымаўся роднага ганка, а перадаючы кумам, на парог пакласці сімвалы, якія адлюстроўваюць якасці, што бацькі жадаюць сыну ці дачцэ. Гэта могуць быць грошы для пажадання багацця, кніга для пажадання добрай навукі.

Некаторыя абрады рабілі калектыўна. Для таго, каб выклікаць чаканы дождж, жанчыны праводзілі абрад праворвання ракі. У час, калі край напаткала вялікая бяда – вайна ці эпідэмія, – жанчыны праводзілі абрад, які нібы ставіў абаронную мяжу вёскі, за якую не можа заступіць нішто ліхое. Такую мяжу ставілі, запрогшыся ў плуг і праводзячы баразну вакол вёскі. У час Вялікай Айчыннай вайны ў некаторых вёсках жанчыны праводзілі абыдзенны абрад. За суткі яны павінны былі вырабіць ахвярнае ільняное палатно, абысці з ім мяжу вёскі, а пасля аддаць у царкву ці павязаць на прыдарожны крыж.

### Як варажылі

Варажба – адна з самых інтрыгуючых частак магічных практык. Многія дзяўчаты і цяпер варожаць на суджанага на Каляды. Пра некаторыя выпадкі прыгадаў і даследчык. У адной вёсцы дзяўчаты пяклі блін і клалі на падлогу. Чый блін першым ухопіць сабака, тая першай выйдзе замуж. Атрымалася, што сабака спачатку пацягнуў адзін блін, а пасля ўсё ж выбраў іншы. Так і атрымалася: выйшла замуж гаспадыня першага бліна, а неўзабаве муж яе кінуў. За ёй выйшла замуж другая.

Самай страшнай варажбой лічыцца практыка з люстэркам. Два люстэркі трэба паставіць адно насупраць другога, а па баках запаліць свечкі. Глядзець трэба ў адну кропку. Нібыта дзяўчына ўбачыць калідор, адчыняцца дзверы, і яна пабачыць свайго суджанага.

Так і зрабіла адна беларуска. Убачыла прыгожага салдата з шабляй і вырашыла выцягнуць з люстэрка яго шаблю – на памяць. Праз нейкі час у суседнюю вёску прыйшоў салдат, маладыя сустрэліся, спадабаліся адзін аднаму, зладзілі вяселле. І ўжо маладая жонка распавядае мужу, як варажыла і забрала шаблю. Яна дастала шаблю з куфра і паказала яе. Муж раз'юшыўся: на раніцу ў іх было важнае пастраенне, а ён з'явіўся без зброі. Яго моцна пакаралі. Мужчыну ўзяла такая злосць, што ён той шабляй і забіў жонку.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Даследчык традыцыйнай культуры Аляксей Глушко.

### Як стаць чараўніком

У людзей, якія "ведалі", была свая іерархія. Прычым да чараўніка звычайна ставіліся з павагай, крыху пабойваліся. А былі такія чараўнікі, якія ўжо не валодалі сваёй сілай, а наадварот: духі валодалі імі. Такія ведзьмакі маглі рабіць шкоду, станавіліся небяспечнымі, найперш для родных. Ад іх стараліся пазбавіцца – выгнаць з вёскі.

Лічылася, што чараўнік павінны ўмець адрабіць шкоду. І што той, хто "знае", не можа рабіць дрэннага, з помсты ці з карысці. Выключэннем быў адзін выпадак. Калі пакрыўдзілі дзяцей ці ўнукаў чараўніка, лічылася дапушчальным, калі ён пры дапамозе сваіх сіл адпомсціць крыўдзіцелю.

Магічную сілу ўспрымалі, як нешта матэрыяльнае, што можна перадаць. Чараўніцтву звычайна вучылі кагосьці з нашчадкаў, але маглі прыняць і ў навуку.

У адной з вёсак у навуку да чараўніка пайшло трое братоў. Ён завёў іх у еўню, пачараваў, і там замест адной сцяны хлопцы ўбачылі сваю вёску, да якой было з дзесяць кіламетраў. Як цяпер бы сказалі, нібы па тэлевізары відаць, хто і што робіць. Двое братоў спужаліся і збеглі, а адзін застаўся вучыцца.

Аднак навука – гэта толькі частка чараўніцтва, другая ж частка – сіла. Лічылася, што чараўнік не можа памерці, пакуль гэту сілу не перадасць камусьці з людзей, таму што проста ў пустату перадаваць яе было небяспечна. Адна жанчына хацела перадаць сілу сваёй дачцэ. Дачка ж не хацела. Разумеючы, што паміраючая маці неяк угаворыць, яна нават з'ехала, каб маці не змагла яе пераканаць.

Аляксей Глушко распавёў, што чараўнікі павінны былі прайсці тры ступені ініцыяцыі (абрад, пры якім адбываўся пераход на новую ступень развіцця). Трэцяя – самая страшная, даследчык нават не рызыкнуў раскрыць дэталі слухачам.

Сказаў толькі, што сіла чараўніка суадносілася з тэрыторыяй. Чым магутней ён – тым далей пра яго ведалі. А сярод супольнасці тых, хто "знае", праводзіліся сустрэчы ў карчме. Яны мераліся, хто мацнейшы, ці поглядам вочы ў вочы, ці хто вышэй пазіркам падыме шклянку.

Даследчык магіі падказаў, што і цяпер у многіх вёсках ёсць тыя, хто "ведае".



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Устройства для змянення напрамку, пераключэння току.
3. У 2009 годзе ўпершыню за гісторыю чалавецтва гэта зраўнялася паміж гарадскім і вясковым.
4. У перакладзе з грэчаскай – “зялёны ліст”.
5. Старадаўняе драўлянае мнагавёславае судна.
7. Грубая, недарэчная памылка.
8. Бывае і дамашняя, і дзікая.
13. Тварам уніз.
14. Пругкія хістанні, якія не ўспрымае вуха чалавека, чыя частата больш за 20 кілагерц.
15. Хусцінка трохвугольнай формы.
17. У доўг, у крэдыт.
20. Яўрэйскае абшчыннае самакіраванне.
24. … не ідзе на лад.
25. Ядавітая змяя сямейства гадзюк.
27. Роўнасць з пераменнай.
29. Сляды пошукаў гэтага месца засталіся на геаграфічнай карце: гарады ў некалькіх штатах ЗША і Венесуэле. Як яны называюцца?
33. Закончыце цытату Кастуся Каліноўскага "Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця на вышыню нашых …".

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Калі яна расце, то скрыпіць.
6. Іх радзіма – Чыкага. З’явіліся ў выніку саперніцтва паміж ім і Нью-Ёркам. Цяпер лідзіруюць Малайзія і Ганконг.
8. Сумка для стрэл.
9. Прадукт з печані, лёгкага, селязёнкі забойнай жывёлы.
10. Манера дзейнічаць, звычка, нораў.
11. Беларускі народны інструмент.
12. Вадкасць з рэзкім кіслым смакам, якая ўжываецца як вострая прыправа для кансервавання.
16. Хто жыве з міласціны.
18. Вельмі хутка.
19. Хто займаецца перапрадажам.
20. Перарывістыя крыкі, характэрныя для некаторых птушак.
21. Лічынка матыля.
22. Гарызантальнае перакрыцце ў корпусе судна.
23. Горад, у якім адбываецца дзеянне мультфільма “Аладзін”.
25. Каля рымскага Калізея ў свой час стаяла 20-метровая статуя Нерона. Пасля яго смерці імператар Комад загадаў нешта ў ёй змяніць. Што?
26. Вобраз, які ўзнікае ва ўяўленні.
28. Імя беларускага мастака, які жыў у Багданаве на Валожыншчыне. Аўтар эпічнай сагі пра лёс простых людзей, крытыкі адзначалі яго выключны дар каларыста.
30. Пабочны прадукт фотасінтэзу.
31. Доўгачаканы фільм з Джонам Дэпам, які выйдзе ў канцы мая – “Піраты Карыбскага мора. Мерцвякі не расказваюць …”.
32. Аматар музыкі.
34. Прагорклы.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №18.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Кадрыля. 3. Мазут. 4. Варта. 6. Грамадою. 7. Нерон. 10. Апагей. 12. Ганчак. 13. Дуплет. 15. Бахча. 16. Докер. 20. Вэрхал. 22. Ашмяны. 23. Агра. 24. Волкі. 27. Караткевіч. 28. Абалонка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Дэкрэт. 5. Басурман. 8. Глыба. 9. Багдад. 11. Вачніца. 12. Глей. 14. Імша. 15. Баржом. 17. Піфагор. 18. Катэт. 19. Жартачкі. 21. Зашмарга. 24. Вар. 25. Макрэль. 26. Басма.

## ГАРАСКОП 19-25 МАЯ



**АВЕН.** Не супярэчце спецыяльна людзям і не імкніцеся выклікаць у іх зайздрасць, паколькі яна паслужыць сігналам да ўдару ў адказ. А яшчэ накіроўвайце негатыўную энергію на ажыццяўленне канструктыўных планаў.



**ЦЯЛЕЦ.** Перыяд будзе плённы. Вам у галаву пачнуць лезці новыя ідэі, якія абавязкова трэба будзе рэалізаваць. І калі вы сапраўды ўсё добра абдумаеце, няспешна складзяце план дзеянняў, то зможаце разгарнуць актыўную дзейнасць па рэалізацыі ўсяго запланаванага. Час паспяховы для ўсіх пачынанняў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Пачынайце працу над сабой: падумайце, ці ўсё вы правільна робіце, ці да тых мэт імкняцеся. Пара ўзяцца за наладжванне і ўзнаўленне ранейшых сувязяў, якія аслаблі з-за вашай тагальнай занятасці.



**РАК.** Будзьце ўважлівыя і асцярожныя, бо ў гэты час вашы зайздроснікі і нядобразычліўцы будуць асабліва актыўныя і могуць прыняць спробы, каб нашкодзіць вам. Адстаяць сваю пазіцыю вы зможаце толькі, калі будзеце цалкам упэўненыя ў сваёй праваце.



**ЛЕЎ.** Усе дні будуць звязаныя з матэрыяльным бокам вашага жыцця, з вырашэннем выключна фінансавых пытанняў, а вось на жыццёвых радасці часу і сіл амаль не застанецца.



**ДЗЕВА.** Памятайце аб небяспецы ілюзій і падманаў. Нельга з дакладнасцю сказаць, што адбудзецца, але пазбягайце людзей, якія прапануюць вам фантастычныя планы ці спрабуюць захапіць вас фанатычнымі ідэямі.



**ШАЛІ.** Варта ведаць: калі вы крыўдзіцеся, значыць, вы прызнаеце свае памылкі, калі раззлаваліся – не маеце рацыі. Энергетычная засцярога: складзеныя накрыж рукі на грудзях.



**СКАРПІЁН.** Вам прыйдзецца вырашаць шмат розных пытанняў, і не заўсёды ваш выбар будзе правільны. Таму не ігнаруйце парады людзей, звяртайцеся па дапамогу толькі да тых, каму можаце давяраць.



**СТРАЛЕЦ.** Вам неабходна разабрацца ў сабе з тым, што скрыта ўнутры і яшчэ “спіць”, і правесці непрадузятую ацэнку сваіх жаданняў і тых жыццёвых каштоўнасцяў, якія важныя для вас. Калі вы абвяргалі заняткі спортам, то самы час пачаць выконваць пасільныя фізічныя практыкаванні для падтрымання сілы цела і духу ў тонусе.



**КАЗЯРОГ.** Не зацыклівайцеся на фінансавым баку жыцця. Грошы ж не самае галоўнае, яны прыходзяць і сыходзяць. А вось новыя рамантычныя адносіны адцягнуць увагу ад розных перажыванняў. Значыць, цяпер патрэбныя новыя знаёмствы. А калі вы яшчэ акажацеся на адной “хвалі” з субяседнікам, то ўсё астатняе адыдзе на іншы план.



**ВАДАЛЕЙ.** Дні спрыяльныя, асабліва ў пытаннях рамантычнага характару. Пастарайцеся не есці праз меру, ды і іншых уцех вам залішне не трэба, бо менавіта цяпер з’явіцца цяга да рознага роду забаў. Яшчэ вам прыйдзецца выбраць адно з двух, і ад гэтага будзе залежаць ваша далейшае жыццё. Па дапамогу звяртайцеся да свайго сэрца.



**РЫБЫ.** Вам пачнуць устаўляць палкі ў колы, але ўсе падобныя спробы будуць няўдачнымі для вашых нядобразычліўцаў. Хутка ўсё наладзіцца, і вы будзеце адчуваць сябе цалкам камфортна. Магчымы адбыцца нейкія змены ў адносінах, але яны ў любым выпадку будуць спрыяльныя для вас.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 8 | | | 3 | 7 | |
| | | | | 5 | 3 | | 6 | 9 |
| 8 | | | | | | | 5 | |
| | 5 | | | | | 6 | | 3 |
| | | 1 | 6 | 4 | 2 | 7 | | |
| 6 | | 4 | | | | | 2 | |
| | 6 | | | | | | | 7 |
| 4 | 2 | | 3 | 6 | | | | |
| | 1 | 8 | | | 9 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## Мінскі абласны драматычны тэатр




**РЭПЕРТУАР НА МАЙ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**Прысвячаецца Міжнароднаму дню абароны дзяцей і Сусветнаму дню бацькоў**

“**Кот у ботах**” (музычная казка), *Вольга Ліс*
31 мая – у 17:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Вакзал на траіх**” (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
23 мая – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Прыгажуні**” (амерыканская камедыя), *Айван Менчэл*
25 мая – у 19:00

“**Дзядзечкаў сон**” (камедыя мардасаўскіх нораваў), *Фёдар Дастаеўскі*
30 мая – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*

Тэлефоны:
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.
E-mail: modt@tut.by
Сайт: theatre-modt.by

ISSN 1991-7155

Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015



● НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +12 / +18 | | +14 / +22 | | +13 / +22 | | +16 / +23 | |
| | 744 | → 1 | 742 | → 3 | 740 | ↓ 5 | 740 | ↙ 4 |
| **Вільня** | +13 / +21 | | +15 / +23 | | +14 / +24 | | +16 / +21 | |
| | 752 | ↑ 2 | 750 | ↖ 2 | 749 | ↓ 3 | 750 | ↓ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 4.59
Захад 21.19
Даўжыня дня 16.20


Усход 3.01
Захад 13.55
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОРЬЯ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -1,7 °C у 1974 годзе
Максімальная тэмпература +26,9 °C у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 25,9 мм у 1955 годзе
Паводле meteoinfo.by



● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВАЛОЖЫНШЧЫНЫ




# На Валожыншчыне прайшла ноч танцаў

ВАЛОЖЫН

Незвычайнае мерапрыемства з начнымі танцамі і спевамі зладзіў этнаграфічны клуб "KOLA" на Валожыншчыне на хутары Засценак Скрыплеў 13 мая.

– На гэты Новы год некаторыя ўдзельнікі этнаграфічнага клуба "KOLA" былі на ночы танцаў у Мінску, – расказвае адна з арганізатарак "Ночы танцаў у маёвым садзе" **Воля Трубач**. – Вельмі спадабаўся такі фармат, захацелася зрабіць нешта падобнае і ў нашым рэгіёне. Якраз знайшоўся чалавек, які таксама загарэўся гэтай ідэяй, – уласнік хутара Засценак Скрыплеў **Васіль Грынь**, ён пагадзіўся зладзіць мерапрыемства на яго хутары.

Нестандартным мерапрыемствам зацікавіліся і музыкі з розных рэгіёнаў.

Непасрэдна ноч танцаў доўжылася дзевяць гадзін, з васьмі вечара і да пяці раніцы.

– Танцы ніхто не лічыў, было настолькі многа, – адзначае Воля Трубач. – Каля паўсотні дакладна станцавалі. Было шмат падрыхтаваных людзей, якія пратанцавалі ўсю ноч і гатовыя былі яшчэ танцаваць і ўдзень. Былі і такія, што спачатку глядзелі на тых, хто танцуе, а пасля пускаліся ў скокі – уседзець было складана. Увогуле ў нейкі момант здавалася, што цела танцуе само па сабе, ведае куды рухацца ў наступнае імгненне. А сам ты нібіта назіраеш збоку.

## "Запомніўся сабака, гатовы аблізаць і залізаць кожнага"

Маладзечанка **Наталля Цар** падзялілася сваімі адчуваннямі ад мерапрыемства:

– Як мне ноч танцаў? Ммммм.... Чароўна! Кожная ноч на прыродзе асаблівая, а гэта.... Квітнеючыя дрэвы, водар кветак і скошанай травы, спеў птушак, месяц на паўнеба... і танцы-танцы-танцы... У першую чаргу запомніўся сабака. Гэты велікан гатовы аблізаць і залізаць кожнага, хто да яго падыдзе. Такі мяккі, прыемны... І завуць яго хораша – Туман.

Маладзечанка прызналася, што ногі гудзелі і падчас самога мерапрыемства. Ды і як не будуць гудзець – так скакаць.

– Але ж разумееш, што такога, як у гэты момант, больш ніколі не будзе, – падводзіць выснову Наталля Цар. – Таму пасядзіш каля вогнішча – і зноў у скокі.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**
**Фота Аляксея Піскуна, больш фота на rh.by.**

**Чытайце праз тыдзень:**

**Сячкарню, начоўкі, ступу з таўкачом лічаць музейнымі экспанатамі. Але і ў 21 стагоддзі некаторыя карыстаюцца імі. Таму мы запускаем праект "Простыя рэчы".**



Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№20 (1151) 19.05.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 472. Падпісана ў друк у 9.00 18.05.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.